
Поспех Арлянскай гміны →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


albom.pl →8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (2995) Год LVIII | Беласток, 6 кастрычніка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**На цэлай усходняй і паўночнай мяжы Польшчы толькі на двух памежных пераходах можна перасякаць мяжу пешшу і на ровары. Гэта пераход Мэдыка — Шэгіні на мяжы з Украінай і Белавежа на мяжы з Беларуссю. На абсурднасць такой дыскрымінацыі пешаходаў звярталі ўвагу ініцыятары і прыхільнікі грамадскай ініцыятывы „Piesze przejścia graniczne / пешаходныя пераходы”, якая ўзнікла ў студзені 2013 г. і засяроджваецца вакол старонкі на Фэйсбуку: www.facebook.com/turystycznagranica. Дзякуючы шырокай падтрымцы з боку еўрадэпутатаў і дэпутатаў Сейма з розных партый, ініцыятыва аказалася паспяховай: Міністэрства ўнутраных спраў падтрымала ідэю адкрыцця пешаходных пераходаў, і магчыма яшчэ ў гэтым годзе адкрыюць пешаходны рух на пераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай .**



wikimedia.org

# Пешшу ў Беларусь

Забарона пераходзіць мяжу пешшу (акрамя згаданых ужо двух выключэнняў) — гэта рэлікт сталінскай эпохі. Заходняя мяжа Савецкага Саюза павінна была быць па вызначэнні шчыльнай і непрыязнай для звычайнага грамадзяніна. І тут не меў значэння факт, што польска-савецкая мяжа — гэта зусім не была „жалезная заслона” паміж усходнім і заходнім блокамі, а толькі мяжа паміж дзвюма тэарэтычна саюзнымі краінамі таго ж сацлагера.

Зусім інакш было на мяжы Польшчы з іншымі тады сацыялістычнымі краінамі: ГДР і Чэхаславакіяй. Там перасячэнне мяжы было працейшым і ніхто не дадумаўся забараняць пешаходны рух, напрыклад, на польска-чэхаславацкіх пунктах пропуску. Такой забароны не прыдумалі таксама на новастворaных пунктах пропуску паміж дзяржавамі, якія ўзніклі пасля распаду СССР. Таму пешшу без праблем можна зараз пераходзіць мяжу Беларусі з Літвой, Латвіяй і Украінай, нават калі ў пунктах пропуску няма асобных калідораў для пешаходаў.

На былой польска-савецкай мяжы нават пасля трансфармацыі і распаду СССР усё засталося па-ранейшаму. Хаця ніхто з чыноўнікаў не змог рацыянальна растлумачыць забарону перасякаць мяжу пешшу, яна заставалася. Таму нават калі праектавалі новыя, сучасныя пункты пропуску, у дакументацыі „забывалі” запланаваць асобны калідор, тратуар і пункт пашпартна-мытнага кантролю для пешаходаў. А потым гэтую схему паўтаралі, а ўсе меркавалі, што чамусьці менавіта так і трэба, бо „так было заўсёды”. У апошнія гады чыноўнікі тлумачылі гэта тым, што „гэта знешняя мяжа Еўрасаюза і таму яе нельга пераходзіць пешшу”.

Перакананне, што нібыта Еўрасаюз забараняе пешаходны рух, афіцыйна абвергалі вясной 2013 года. Тады еўрадэпутат Альжбета Лукацыеўская з Прыкарпацця звярнулася з афіцыйным запытам у Еўракамісію з просьбай удакладніць, як ёсць. Адказ камісара па пытаннях пашырэння Штэфана Фюле не пакідае сумненняў. З адказу вынікае, што ЕС не толькі не забараняе, але ўсяляк спрыяе адкрыццю пешаходных пераходаў і яшчэ дае на такія інвестыцыі дафінансаванне пры ўмове прадстаўлення адпаведнага праекта. Бо прыярытэтам для ЕС з'яўляецца экалогія, і таму трэба спрыяць усякім відам транспарту, якія з'яўляюцца альтэрнатыўнымі для аўтамабіляў. А гэта цягнікі, караблі, ровары і менавіта пешаходны рух.

Потым было ўжо лёгка. Абсурднасць цяперашняга стану, калі мяжу можна перасекчы толькі ў машыне (аўтобусе, цягніку), а нельга пешшу, стала хутка зразумелая ўсім. У тым ліку і дэпутатам Сейма і Еўрапарламента. Вясной 2013 года не было тыдня, каб нейкі польскі дэпутат не звярнуўся з дэпутацкім запытам у МУС па гэтай прычыне. Міністэрства спачатку спрабавала неяк гэтую сітуацыю абгрунтаваць, аднак хутка самі чыноўнікі МУС зразумелі, што гэта абсурд і проста трэба скончыць з гэтым рэліктам сталінізму — дыскрымінацыяй пешаходаў. „Я даручыў усім ваяводам памежных ваяводстваў, каб да канца лета падрыхтавалі справаздачу і паказалі ў ёй, дзе магчыма адкрыць у бліжэйшы час пешаходныя калідоры і колькі гэта будзе каштаваць. Грошы на гэта мы знойдзем у бюджэце” — казаў у траўні ў Сейме віцэ-міністр унутраных спраў Пётр Стаханьчык.

Як аказалася, гэта не былі толькі пустыя абяцанні. З усіх ваяводаў актыўна адрэагаваў гаспадар Падляшша, тады як на Люблінчыне, Падкарпацці і ў Вармінска-Мазурскім надалей шукаюць аргументаў, каб нічога не мяняць. А на Падляшшы ёсць першыя канкрэтныя рашэнні. МУС ужо выдзеліў 900 тысяч злотых на стварэнне пешаходнага калідора ў Кузніцы-Беластоцкай, так што магчыма, што яшчэ ў лістападзе-снежні можна будзе перасекчы мяжу на ўласных нагах, а не толькі ў машыне, аўтобусе ці цягніку. А ў 2014 ці 2015 годзе, калі скончыцца рэканструкцыя, пешаходны рух будзе магчымы таксама ў Палаўцах.

А што з іншымі памежнымі пераходамі, у тым ліку ў Баброўніках і Тарэспалі? Тут крыху больш складана, таму што трэба пабудаваць асобныя масты для пешаходаў. І невядома, ці знойдуцца на гэта грошы. Таму каардынатар ініцыятывы „Пешаходныя пераходы” Мацей Пятроўскі апелюе да ўсіх, хто карыстаецца сацыяльнай сеткай Фэйсбук, да падтрымкі гэтай справы: „У наш час вялікая колькасць «лайкаў» ёсць мерай падтрымкі данай справы з боку грамадства. Нашу старонку падтрымлівае ўжо больш за 1700 чалавек, гэтага аказалася дастаткова, каб у МУС і Сейме да нашай ініцыятывы ставіліся сур'ёзна. Калі б было толькі 200 чалавек, нічога б не атрымалася. Аднак для поўнага поспеху трэба пашырыць інфармацыю аб нашай ініцыятыве, у тым ліку я прашу ўсіх, хто яшчэ гэтага не зрабіў, падтрымаць старонку www.facebook.com/turystycznagranica і перадаць інфармацыю пра гэта сябрам і знаёмым. Калі нас будзе 5000, гэта будзе дастатковая сіла, каб знайшліся грошы і на мадэрнізацыю Баброўнікаў і Тарэспаля, менавіта так гэта ўсё дзейнічае”, — кажа Мацей Пятроўскі.

**Якуб ЛОГІНАЎ**

## УВАГА КОНКУРС

### XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

*Прынцыпы ўдзельніцтва*

1. Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:
— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,
— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).
2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.
3. Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экзэмплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XVI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.
4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.
5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.
6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

*Тэрміны*

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **31 кастрычніка 2013 г.** (вырашае дата паштовага штампа).
2. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2013 г.
3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

**Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.**


9 770546 196000



# Захад ці Усход

„Вайна нішто, галоўнае манеўры". Гэтую фразу хіба што чуў кожны, каму хоць адну гадзіну давялося адслужыць у савецкім войску. Хаця там, звычайна, служылі не менш двух гадоў. І гэтая фраза тады гучала з салдацкім, не зусім цэнзурным вымаўленнем. Але сэнс застаўся гэткі ж. Па-вайсковаму просты як стрэл, лаканічны як загад, і максімальна набліжаны да рэчаіснасці.

Дык вось, у Беларусі толькі што прайшлі вайсковыя вучэнні. І ўдзельнічалі ў іх не толькі беларускія вайскоўцы, але і расійскія. І нават кіраўнікі гэтых краін. Папрысутнічалі яны, адпаведна, на землях абедзвюх незалежных дзяржаў. І на сённяшняй расійскай тэрыторыі, якая дасталася Расіі паводле права мацнейшага, пасля перамогі над гітлераўскай Нямеччынай, і на беларускай зямельцы, якую не ўсю да канца, пасля той пераможнай вайны, саветы нахабна пераздавалі каму хацелі. І невядома па якім праве.

Беларусь, пасля сумесных з Расіяй ваенных дзеянняў стала ўнікальнай краінай-пераможцам, якая ў адрозненні ад іншых пераможцаў не здабыла, а згубіла сваю тэрыторыю. Яшчэ сваю тэрыторыю таксама Нямеччына згубіла. Але яна, здаецца, у адрозненні ад нас, тую вайну прайграла.

Цяперашнія вучэнні назвалі „Запад-2013". Пісаць назву, хіба што, трэба выключна па расійску, бо тое, што для іх „Запад", для нас акурат цэнтр Еўропы, які па волі лёсу ёсць нашай Радзімай. Асабіста я нават памятаю „манеўры" з падобнай назвай. Тады яны называліся „Запад-81". Праўда „Запад", на думку савецкіх генералаў, тады быў значна далей на захад, недзе пад мяжой з той самай Нямеччынай.

Тады ў краінах-удзельніцах Варшаўскай дамовы было ўжо вельмі неспакойна. І хіба гэтая назва вучэнняў ім вельмі не спадабалася, бо яны сябе і так заўсёды лічылі „Захадам". Як і мы. І з Захадам ваяваць не збіраліся. Магчыма таму наступныя сумесныя вучэнні называліся ўжо то „Дружба", то „Шчыт". І аніякага „Западу". Хоць, калі быць да канца шчырымі, то і „шчыта" з імі ў СССР не атрымалася, і тым больш „дружбы".

Цяпер назва „Запад" зноў загучала. І гэтым разам ужо мы, Беларусь, і ёсць Захад, хоць мы і так даўно гэта ведалі. Як і словы заходняга класіка, што Захад ёсць Захад, а Усход ёсць Усход. І з месца яны не зыдуць. Гэта нашым усходнім суседзям трэба вызначацца хто яны. Але ж кіраўнік суседняй краіны так і не вызначыўся, назваўшы Расію і не Усходам, і не Захадам. Так і не здужаў зрабіць цывілізацыйны выбар.

Можа таму з кім зараз салдаты і афіцэры дзвюх суседніх краін ваявалі разабрацца недасвечанаму ў гіперсучасных вайсковых справах чалавеку практычна немажліва. Хто наш верагодны супрацьўнік, якая ў нас вайсковая канцэпцыя, ад каго мы мяркуем адбівацца, хто на нас нападаць збіраецца і чаму арэнай бітвы для беларусаў стала Калінінградская вобласць Расійскай Федэрацыі засталося неразгаданым. Як і тое, чаму мы навучаемся ваяваць плячо ў плячо з войскамі той краіны, галоўнакамандуючы якой нейк заявіў, што хацеў бы Беларусь далучыць да сябе цалкам або часткамі. Калі мы такія моцныя і ўпэўненыя ў сваіх сілах і не баімся падобных пагроз, то трэба толькі радавацца. Але навошта тады некаму даваць падглядзваць нашае даскаланалае вайсковае майстэрства.

Зрэшты, калі краіна мае свае войскі, то яны мусяць вучыцца ваяваць. Гэта лагічна і правільна. І шукаць тлумачэнняў прысутнасці ў Беларусі беларускай арміі не трэба. Жывём мы тут. Але ці насамрэч Расійская Федэрацыя чакае замежнай інтэрвенцыі з гэтага, заходняга кірунку, што і манеўры тут замуцілі, і вайсковую авіябазу пішчма пруць? Няўжо і праўда, што Еўропу падазраюць? А мо на ўсходнія свае землі ўжо рукой махнулі? Прыйшлі да высновы, што ўсё адно там парадку навесці не ў стане.

Ці ўсё ж маюць тут, у Беларусі, якіясь планы? Цікава якія! Хоць калі падумаць, то можна і здагадацца. Але ж замест бессэнсоўнай справы, ад якой засцерагаў Кіплінг, вырашылі б лепш хто яны самі — Усход, ці Захад. І рухаліся б нарэшце ў абраным кірунку. Тады можа і манеўраў аніякіх не спатрэбілася б. Прынамсі тут, у Беларусі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Ні тыя, ні тыя

Тыдзень таму я падняў пытанне аб п'янстве беларусаў. Аднак гэта не адзіны народ, у якім гэтая праблема рэзка брыняе пад яснаасвечаным патранажам... дзяржавы. Шматмільённым паступленням у дзяржаўную казну за кошт акцызаў на алкаголь не пагарджаюць міністры фінансаў Беларусі, Украіны і Расіі ці Польшчы. Я маю на ўвазе славян. Іншымі словамі, чым больш хлебчуць славянскія грамадзяне, тым больш грашовых сродкаў у наяўнасці трапляе ў касу іх дзяржаў. І тым больш рады міністры фінансаў. Гэта дае ім грошы для падтрымання антыалкагольных кансультацый, на зарплаты дзяржслужачым, настаўнікам, паліцыі, войску і г.д. Тым не менш, у гэты момант трэба спытацца, як тая дзяржава інтэгруе свой бюджэт на прыбытковасць з дапамогай прапінацыі — продажу алкагольных напояў? Ну, вось, дзяржава дэфрагментаваная на вышэйшыя органы ўлады і падуладных яе грамадзян. Варта памятаць, што слова «прапінацыя» паходзіць ад лацінскага «propinare» , значыць, «частаваць (спіртным) напоем». У шляхецкія часы тое «частаванне» было небескарыслівай здзелкай. Селянін павінен быў напівацца, у той час як шляхціц чэрпаў чысты даход з ганебнага п'янства. Гэта нічым не адрознівацца ад таго, што адбываецца ў нашыя дні.

Аб узроўні палітычнай культуры краіны сведчыць стабільны сацыяльны парадак, які з'яўляецца кансенсусам згоды на яго большасці грамадзян. Часам, аднак, гэтая большасць з'яўляецца альбо п'янай — у літаральным сэнсе — або палітычна яна ў стане алкагольнага ап'янення. Дае гэта ў выніку выбараў такіх а не іншых «дзяржымордаў». У такой дзяржаве ўсё хворае. Атакуюць яе бактэрыі карупцыі, крадзяжоў, цёмных ладоў інтарэсаў і ясных як дзень махлярстваў у вышэйшай уладнай эліты. І чым больш гэтыя эліты зняважаць грамадзян сваім хамствам, тым больш грамадзяне адурманьваюцца алкагольнымі напоямі. Што можна сказаць пра дзяржаву, у якой расце бедства алкагалізму — што яна залежная ад інтаксікацыі сваіх грамадзян? Ці тое, што яны залежныя ад такой улады ?

Расстрой стрававальнай сістэмы аднаго амерыканца — павучальны прыклад на тое, што ўсё справа выпадковасці. Яго арганізм саманапойваецца, прытым напаваў. Гэта не дзіўна, таму што самы высокі паказчык узроўню алкаголю ў яго крыві перавышаў 3,7 праміле, што эквівалентна паўлітроўцы «чыстай» і на пусты страўнік. У той жа час той небарака спіртных напояў у любой форме не ўжывае, і , больш за тое, ён іх ненавідзіць! Не ўжывае алкаголю ні-ні. Гэтая інфармацыя магла б разглядацца як журналісцкая «качка», калі б яе не падаў аўтарытэтны медыцынскі «Часопіс клінічнай медыцыны», у якім дакладна апісваецца ход гэтага захворвання. Яно развіваецца вельмі рэдка і толькі тады, калі было парушана функцыянаванне стрававальных працэсаў. Бывае гэтак пасля курсу занадта агрэсіўных антыбіётыкаў. І так было ў выпадку гэтага амерыканца. Яго стэрылізаваны антыбіётыкамі арганізм не ў стане нейтралізаваць дражджакоў — паўсюдна распаўсюджаных у прыродзе мнагаклетачных. Пачынаючы з лясных грыбоў, праз піўныя дрожджы і звычайную цвіль, аж да звычайнага грыбковага запалення ступакоў, яны цалкам асвоілі асяроддзе пражывання чалавека. Калі арганізм амерыканца быў здаровы, яго страўнікавыя сокі літаральна кансервавалі іх як воцат агуркі. Калі яго саслабілі антыбіётыкі, грыбковае племя размножылася як кітайскія падробкі ў элегантных бутыках. Дрожджы сілкуюцца простымі цукрамі, якія выпрацоўваюцца шляхам ферментацыі вугляводаў. І яны ёсць у бульбе ці макаронах, якімі амерыканец любіць паласавацца. Пабочным эфектам гэтага працэсу з'яўляецца чысты алкаголь. Вось чаму амерыканскі бедалага выпадкова напіваецца, хаця яго дзяржава, якой з'яўляецца грамадзянінам, хоча трымаць яго ў цвярозасці. Філасофія амерыканскай дзяржавы складаецца ў тым, што чым больш цвярозымі з'яўляюцца яе грамадзяне, тым больш цвярозая і яна. А цвярозая дзяржава гэта фундамент грамадзянскай стрыманасці — так грамадзян да ўласных патрэб, як дзяржавы ў адносінах да правоў сваіх грамадзян. А як з гэтым у Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы? Ані тыя (грамадзяне), ані тыя (кіруючыя) пра гэта нават не падумаюць. Але думаць жа трэба. Толькі што ніхто не думае: пад уладай, напрыклад, Аляксандра Лукашэнкі, гэта проста немагчыма.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Прэзідэнт, ці вы думаеце пра смерць?

У красавіку 1995 года за некалькі гадзін да разгону сілай прэзідэнтам Лукашэнкам дэмакратычна абранага беларускага парламента, галоўны рэдактар «Выбарчай газеты» Адам Міхнік узяў у яго вялікае інтэрв'ю. Калі я не памыляюся, пазней у польскай прэсе не было такой размовы з — як аказалася і пачалі яго называць — апошнім дыктатарам у Еўропе. Галоўны рэдактар «Выбарчай» пытаўся, між іншым, пра палітычную сітуацыю ў Беларусі, беларуска-расійскія адносіны, трывожныя ўжо тады прыкметы ў становішчы сродкаў масавай інфармацыі. Адно з пытанняў гучала:

Адам Міхнік: У мяне ёсць два любімыя беларускія пісьменнікі. Адзін, Сакрат Яновіч, жыве ў Польшчы. Другі ў Мінску — завецца Васіль Быкаў. Калі я чытаю іхнія кнігі, адчуваю, што яны баяцца за тое, што беларускі народ знікне, наступіць яго поўная асіміляцыя з Расіяй. Ці Вы гэтага ніколі не баіцеся?

Лукашэнка адказаў: — Мне здаецца, што няма ніякіх падстаў для боязі. Васіль Быкаў таксама з'яўляецца адным з маіх любімых пісьменнікаў, але я не падзяляю яго палітычных поглядаў. Тым больш, што ён сёння дае зусім фантастычныя заявы. Ці чыталі вы яго апошнія выступленні? Гэта перапоўненыя нянавісцю палітычныя дэкларацыі. Ён нядаўна далучыўся да Беларускага народнага фронту, да Пазьняка, і яго цяперашняя ідэалогія імкнецца да нацыянал-фашызму. Што здарылася з гэтым таленавітым пісьменнікам? Ці, магчыма, мы маглі б працаваць разам так, каб наша нацыянальная свядомасць не была пахавана? Тое, што нацыянальнае, немагчыма пахаваць. Я нядаўна быў у Ветцы, у Гомельскай вобласці. Існуе там вельмі стары музей, верагодна, найлепшы ў нашай рэспубліцы. Ёсць іконы, вышыўка, народная творчасць, вынікі працы нашых людзей. Пра гэта маўчалі, не прыкмячалі, часам спрабуючы знішчыць, а гэта выжыла. Толькі дурныя палітыкі могуць разбураць тое, што нацыянальнае, свае карані. Але паказвацца вышэй у параўнанні з іншымі культурамі, у тым ліку над польскай культурай — гэта таксама абсурд.

Адам Міхнік гэты фрагмент свайго інтэрв'ю прыгадаў на апошнім „Трыялогу" ў Крынках, арганізаваным упершыню пасля смерці яго ініцыятара і стваральніка Сакрата Яновіча, якому таксама прысвечана была гэтая падзея. У перапынку адной з трыялогавых дэбат, шпацыруючы з кіраўніком «Выбарчай» на рынку ў Крынках, я спытаўся ў яго, пра што спытаўся б у Аляксандра Лукашэнкі (калі б была такая магчымасць) і ці з перспектывы пасля 1995 года не сарамееца гэтай размовы:

— Усё залежала б ад маіх беларускіх сяброў. Тады сітуацыя яшчэ не выглядала так, як цяпер, не ўсё было так вызначана. Намовіў мяне адзін з маіх сяброў беларусаў. Ён сказаў: «Прыедзь, пагавары з ім, можа, будзеш мець на яго нейкі ўплыў». Я ніколі не быў у Беларусі. Я пазнаёміўся тады з Васілём Быкавым, які сказаў мне: «Наш прэзідэнт гэта не прэзідэнт, а рэзідэнт». Я паводзіў сябе не як ідэолаг, а як кіраўнік вялікага польскага часопіса. Ваша пытанне носіць чыста тэарэтычны характар. Я на ўсіх чорных спісах Лукашэнкі. Адно толькі пытанне я задаў бы яму: ці ён думае пра смерць. Гэта, відавочна, жудасны мужык, але мабыць калі-небудзь гісторыкі будуць ацэньваць яго інакш, чым мы. У адным артыкуле я назваў яго саўгасным Банапартам, але адначасова пры сваёй грубасці, прымітывізме, пошласці, разглядання Беларусі як сваёй уласнасці, ён чапурыцца перад Расіяй. Спачатку меў сцэнар, што будзе пераемнікам Ельцына і стане на чале ўсёй вялікай Расіі. Калі Пуцін перамог на выбарах, гэта была чорная ноч для Аляксандра Рыгоравіча.

Дадаў, спасылаючыся на сваю цікавасць да беларусаў у Беларусі:

— Цікавіць мяне гэты феномен, які дзейнічае сярод беларусаў, скрыжаванне маскаляфільства са славянафільствам. Тое, што я ненавіджу сярод палякаў, ксенафобскага нацыяналізму, у беларусаў не мяшае мне, лепш гэта разумею.

Ці Адаму Міхніку ўдасца зрабіць інтэрв'ю з дэмакратычна абраным прэзідэнтам Беларусі? Гэтага я, таксама як журналіст, хачу і чакаю.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Вялізны поспех Арлянскай гміны

Размова з **Пётрам Сэльвесюком**, войтам Арлянскай гміны, адзінай у Польшчы, якая рашылася ўстанавіць двухмоўныя ўказальнікі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах. Аказалася, што такое рашэнне не палохае інвестараў. Будуюць яны свае прадпрыемствы ў адметнай па нацыянальнай і рэлігійнай прыкметах гміне, у якой выніку перапісу насельніцтва ў 2002 годзе паказалі, што беларусы складаюць ажно 68,93% ад агульнага ліку жыхароў Арлянскай гміны.



Фота Аляксея МАРОЗА

**— Вашая гміна ў рэйтынгу заможнасці самаўрадаў двухтыднёвіка «Wspólnota» заняла 45 месца ў Польшчы, з ліку 1571 самаўрада і 2 месца ў Падляшскім ваяводстве, па развіцці і заможнасці гміны ў 2012 годзе. Калі Вашая гміна ў 2006 годзе займала ў рэйтынгу 1396 месца, у 2009 — 933, у 2011— 423, то відаць, што самы вялікі ўздым адбыўся ў 2012 годзе. Што ў галоўным паўплывала на такі велізарны поспех?**

— У рэйтынгу ацэньваўся гмінны даход у разліку на душу насельніцтва, які ў нашай гміне ў 2012 г. склаў суму 3 454 зл. У мінулым годзе падаткак ад нерухомасці з распаложанай у нашай гміне фабрыкі міжнароднай групы «Ікея» склаў больш за 2 700 тыс. зл. і гэты фактар у галоўным вырашыў, што мы так высока падняліся ў рэйтынгу заможнасці самаўрадаў. Удалося нам заахвоціць міжнародную групу «Ікея» да інвеставання ў нашай гміне і пасля доўгіх размоваў давесці да фіналу гэтую задуму. У гэтым моцна дапамагло нам Павятовае староства ў Бельску-Падляшскім. У размовы і прыцягванне інвестыцый асабіста моцна заангажаваўся віцэ-староста Пётр Божка. Працу ў дрэваапрацоўчай фабрыцы групы «Ікея» знайшлі таксама жыхары нашай гміны.

**— Ці гэта праўда, што Вашая гміна ўвогуле не задоўжаная, што ў гэтым годзе інвестыцыі паглынуць амаль 5 млн. зл.?**

— У нашай гміне няма ніякіх задоўжанасцей. Сёлета на гмінныя інвестыцыі прадбачваем амаль 5 млн. зл. З нашага бюджэту дафінансоўваем павятовыя дарожныя інвестыцыі ў памеры 1 300 тыс. зл. Таму ў 2013 г. на інвестыцыі на тэрыторыі нашай гміны выдаткуем 6 300 тыс. зл.

**— Што Вы ўжо зрэалізавалі і прадбачваеце рабіць у гэтым годзе за гэтыя вялікія сродкі?**

— Ужо закончылася будова санітарнай каналізацыі, перабудова водаправода ў Орлі, мадэрнізавалі мы тратуар у Крывятычах і перабудавалі гмінную дарогу ў Малінніках. Перабудоўваецца зараз гмінная дарога ў Шчытах-Навадворах, новае пакрыццё атрымаюць вуліцы Аградовая і Вызвалення ў Орлі, а таксама разбудоўваюцца і мадэрнізуюцца святліцы ў Градалях і Міклашах. Апрацавалі мы дакументацыю на разбудову гміннай дарогі ў Кашалях, перабудову гміннай дарогі ў Шчытах-Дзенцялове, выконваецца дакументацыя на перабудову праезджай часткі вуліц Пясковай і Партызанаў у Орлі. Прадбачваем распачаць будову ачышчальні сцёкаў у Дыдулях, сумай 1 300 тыс. зл. успамагаем павятовую інвестыцыю, якая зараз рэалізуецца на тэрыторыі нашай гміны, і выканане дакументацыі на іншыя павятовыя інвестыцыі. Цяпер адбываецца перабудова дарогі ў вёску Шарні і ў самой вёсцы, пачынаючы ад скрыжавання з дарогай Кашалі — Пашкоўшчына. Выконваецца зараз дакументацыя на іншыя інвестыцыі на павятовых дарогах у нашай гміне — на перабудову дарогі ў Рыгароўцах, на перабудову дарогі на адрэзку Тапчыкалы — Орля, на перабудову моста і разбудову дарогі Градалі — Кошкі і на перабудову моста на Арлянцы ў Орлі, побач вуліцы Бельскай.

**— Падатак ад нерухомасці, які плацяць дрэваапрацоўчае прадпрыемства групы «Ікея», у гэтым годзе яшчэ намнога павялічыўся.**

— Так, у 2013 г. фабрыка групы «Ікея» заплаціць падатак ад нерухомасці ў памеры 3 600 тыс. зл., амаль на 1 млн. зл. больш, чым у мінулым годзе.

**— У Шчытах разгортвае дзейнасць дрэваапрацоўчая суполка, у якой работу знайшло даволі многа чалавек.**

— У Шчытах дзейнічае дрэваапрацоўчая суполка з абмежаванай адказнасцю «Шчыты», якая таксама плаціць падатак ад нерухомасці. Хаця ён адносна невялікі, то важна нам, што ў прадпрыемстве, дзе працуюць дзесяткі асоб, знайшлі работу таксама жыхары нашай гміны. Зараз у нашай гміне зарэгістраваных каля ста беспрацоўных. Гэта састаўляе прыблізна 4 асобы ў разліку на адну мясцовасць. Гэта невялікі паказчык беспрацоўя ў параўнанні з іншымі гмінамі.

**— Зараз у гміне Орля прадбачваецца будова ветравых турбін, якія будуць выпрацоўваць электраэнергію.**

— Варшаўская суполка з абмежаванай адказнасцю «Nordex» атрымала ўжо дазвол на будову ў нашай гміне 15 ветравых турбін. Будаўнічыя працы маюць распачацца ўжо ў кастрычніку гэтага года. Прадбачваецца будова 6 турбін паміж Орляй, Шчытамі і Крывятычамі і 9 турбін паміж Тапчыкаламі і Спічкамі. Калі яны пачнуць выпрацоўваць электраэнергію, гмінны бюджэт павінен папаўняцца падаткам ад суполкі «Nordex» у памеры прынамсі 1 млн. зл. у год.

**— У краіне здараюцца пратэсты жыхароў супраць будовы ветравых турбін.**

— У нас не было ніякіх пратэстаў. Турбіны будуць распаложаны не бліжэй кіламетра ад згаданых вёсак.

**— У вашай гміне непадалёк ад фабрыкі міжнароднай групы «Ікея» выдзелена ўжо новая тэрыторыя пад інвестыцыі.**

— Калі ехаць краёвай дарогай № 66 з Бельска-Падляшскага ў Кляшчэлі, то інвестыцыя «Ікеі» знаходзіцца на правую руку. Пад новыя інвестыцыі мы выдзелілі 54 гектары на палях вёскі Тапчыкалы, на левую руку ад гэтай дарогі. Уласнікамі ўчасткаў з'яўляюцца прыватныя асобы.

**— Вы паставілі таксама на дзеянні ў напрамку захавання беларускай свядомасці, развіцця беларускай культуры і падтрымлівання беларускай адукацыі. Двухмоўныя ўказальнікі на польскай і беларускай мовах таксама зрабілі рэкламу вашай гміне. Ладзіце беларускія мерапрыемствы і ўспамагаеце дзейнасць нашых калектываў.**

— Выдатная большасць жыхароў нашай гміны хацела, каб мы паставілі ўказальнікі на польскай і беларускай мовах. Яны задаволены такім рашэннем. Я асабіста гэтую пастанову лічу вельмі добрай. У нашай гміне жывуць беларусы і зараз маюць яны назвы сваіх мясцовасцей таксама і на беларускай мове. Мы ж не павінны саромецца сваёй культуры, мовы і традыцый. Нашая гміна — беларуская, мы арганізуем беларускія мерапрыемствы, у нас дзейнічаюць беларускія калектывы, а ў комплексе школ выкладаецца беларуская мова. У час канікулаў у нашай школе рамантаваліся калідоры і класныя кабінеты. Побач школьнага будынка будуецца пляцоўка для гульняў, на будову якой мы атрымалі з Міністэрства адукацыі дафінансаванне ў памеры 63 тыс. зл.

**— На пляцоўцы непадалёк сінагогі рыхтуецца будова новага будынка для Гміннага асяродка культуры ў Орлі.**

— Гмінны асяродак культуры дзейнічае зараз у часовым будынку. Выканалі мы ўжо дакументацыю на будову гміннага цэнтра культуры і выступілі за дазволам на будову, прадбачваны кошт якой складзе 6 500 тыс. злотых. Будзем шукаць крыніц фінансавання гэтай інвестыцыі, якую складана было б рэалізаваць толькі на гмінныя сродкі. У новым будынку прадбачваем размясціць Гмінны асяродак культуры і Гмінную бібліятэку, з чытальняй. Будзе ў ім канцэртная зала, канферэнц-зала, памяшканні для рэпетыцый і іншай культурнай дзейнасці.

**— Калі б прадстаўнік іншай гміны, дзе таксама кампактна пражываюць беларусы, спытаўся ў Вас, ці варта ўстанавіць указальнікі на польскай і беларускай мовах, што б Вы яму адказалі?**

— Я сказаў бы, што варта гэта зрабіць. У нас не апраўдаліся боязі, што такое рашэнне можа нам пашкодзіць, але кожная гміна павінна разглядаць гэтае пытанне самастойна.

**— Дзякую за размову і жадаю чарговых поспехаў.**

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

## На нашых дарогах

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета пару гадоў таму планавалі пакласці асфальт на паўкіламетровым адрэзку павятовай дарогі ад фабрыкі будаўнічай керамікі ў Старым Ляўкове ў бок Капітаншчыны да моста на рацэ Нараўцы. І ўсё нешта стаяла на перашкодзе.

Дарога ішла цераз прыватныя грунты. Калі ўдалося ўладкаваць гэтую справу, тады пабачылі, што кошт пабудовы маставой на гэтым адрэзку дарогі будзе вялікі. Яна павінна быць тоўстай ды значна мацнейшай чымсьці на іншых адрэзках. А гэта таму, што сюдою ездзяць вялікія ды цяжкія грузавікі з пяском або глінай і да таго пад гару. Ад нядаўна гэтыя самаходы пачалі ездзіць па іншай дарозе.

І вось сёлета ад фабрыкі да моста паклалі асфальт. Цяпер ад Новага Ляўкова ў Капітаншчыну ўсе ездзяць па роўнай асфальтавай маставой. У гэтым заслуга Праўлення павятовых дарог у Гайнаўцы і нараўчанскіх гмінных улад. Яны, між іншым, кошт пабудовы падзялілі па палове.

## Новыя прыстрэшкі

Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч дбае пра пачакальні на прыпынках аўтобусаў ПКС, якімі карыстаюцца таксама пасажыры аўтатранспарту прыватных перавозчыкаў. Адзінаццаць новых прыстрэшкаў аддалі ў карыстанне ў мінулых гадах і сёлета. Новыя міні-пачакальні пабудавалі ў Гарадзіску, Альхоўцы, Новай Луцэ, Тарнопалі, Старым Ляўкове, Міхнаўцы, Свінароях, Лешуках, Скупаве і ў Нараўцы. Усе яны маюць сваю адметную архітэктуру. Толькі ў Нараўцы яны не драўляныя.

24 мая гэтага года падчас сесіі Гміннай рады ў Нараўцы солтыс Новага Ляўкова папрасіў войта, каб адрамантаваць ды памаляваць міні-пачакальню ў яго вёсцы. Войт адказаў: „Не будзем рамантаваць, а паставім новую".

25 верасня г.г. прывезлі ў Новае Ляўкова новы прыстрэшак. Вось гэта дзейсны падыход да вырашэння справы. Так што ёсць пасажырам дзе схавацца ад восеньскага дажджу ды халоднага ветру.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Новы тратуар

Вуліца 1 Мая ў Чаромсе лічыцца павятовай дарогай (№ 1779 Б) і прылягае праз цэнтр пасёлка — пачаўшы ад вёскі Чаромхі, а кончыўшы за старым магазінам. Сёлета Праўленне павятовых дарог рамантавала пры гэтай дарозе адрэзак тратуара даўжынёй 430 м. Старыя бетонныя пліты былі зняты, пакладзены новыя, таксама пастаўлены новыя бардзюры. Шыкарна зараз выглядае вуліца 1 Мая ў цэнтры, насупраць аўтобуснага прыпынка і рыначку. Кошт інвестыцыі склаў суму 85 тыс. зл., прычым гміна са сваёй касы выдаткавала 47 500 зл. Засталося яшчэ мясцовым радным знайсці нейкі грош на асфальтаванне рыначнай плошчы, бо гэта псуе выгляд чаромхаўскай візітнай картачкі. Пры гэтай жа дарозе быў рамантаваны аўтобусны прыпынак. Тут пракладзены новы насціл з польбруку. Кошт гміннай інвестыцыі склаў суму 22 755 зл. Хочацца пажадаць чарамшанам, каб іхнія народныя абраннікі клапаціліся не толькі за выгляд цэнтра, але таксама за бакавыя вулачкі. Усё ж такі і там жывуць людзі.

**(ус)**

# Багаты „Багач"

**„Багач, кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку" — так у падшудзялаўскай Слоі сустракалі народнахрысціянскае вераснёвае свята. Па царкоўнай традыцыі „Багач" — гэта дзень нараджэння Божай Маці, дачкі праведных Іаакіма і Анны з Назарэта. Гэтае вялікае свята мае пастаянную дату — 21 верасня паводле новага календара.**

Сялянам такі дзень заўсёды напамінаў пра заканчэнне ўборкі ўраджаю і пачатак сяўбы азімага збожжа. Яшчэ да нядаўня „Багач" вызначаў таксама пачатак уборкі бульбы.

Сама назва свята звязана з багаццем восеньскіх пладоў — агародніны, садавіны і збожжа. Было ўжо што есці і чым гасцей пачаставаць на часта арганізаваных у гэты перыяд вясковых вяселлях.

У гонар Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі названы шматлікія праваслаўныя цэрквы Беласточчыны. У іх ліку знаходзіцца і царква ў Крынках.

Сёлетняе прастольнае свята ў Крынках прайшло асаблівa ўрачыста і багата. У святочнай літургіі, якую саслужыла шматлікае духавенства з навакольных прыходаў, удзельнічалі прадстаўнікі крынскай каталіцкай супольнасці і мясцовыя ўлады на чале з бурмістрам Богданам Панасюком.

Для простых прыхаджан усё-такі найбольш запомнілася святочная вячэрня, якую завяршыў незвычайны канцэрт. На пахаванні апошняга крынскага сапраўднага хормайстра Іосіфа Пералайкі ў 1954 годзе хтосьці прадвяшчаў, што доўга будуць плакаць па ім сцены крынскай царквы. Прароцтва здзейснілася. Мабыць, толькі ў гэты перадсвяточны сачэльнік яны змаглі на хвіліну выцерці свае слёзы. Спеў „Сакалят" з горада Рыбінска ў Расіі выклікаў у крынскіх багамольцаў слёзы радасці і ўспаміны славутага мінулага. „Ці



не надаелі мы вам?" — запытаўся напрыканцы выступлення дырыжор „Сакалят" Сяргей Шасцерыкаў. „У нас такога не было", — адазваўся хтосьці з малодшага пакалення. „Не, было, — супрацівілася Ларыса Курыла, ветэранка крынскага царкоўнага хору, выхаванка Іосіфа Пералайкі. — Было, і мы калісь так спявалі. Тут былі такія галасы! Вас тады яшчэ на свеце не было. Мне якраз тое ўсё і ўспомнілася", — з глыбокім хваляваннем дабавіла яна. Гэта было настолькі даўно што, здаецца, бабулі Ларысе і ніхто не паверыў.

Маладых „Сакалят", як цудоўны, святочны падарак прывёз крынскім прыхаджанам бацюшка Дзмітры Ціханюк з Супрасля. З Рыбінскам сябруе ён больш за дваццаць гадоў. Рускія браты па веры ніколі яго не падвялі. Праўда, былі планы ўдзелу „Сакалят" у цэлай святочнай вячэрні, але далёкае падарожжа іх крыху расстроіла. Чаканыя госці паспелі толькі на сам канец. Хор цудоўна ўпісаўся ў клімат крынскай царквы з царскіх часоў. Пецярбургскі па стылі, апрануты ў золата іканастас, а таксама іконы, падораныя мясцовымі царскімі чыноўнікаамі, стварылі рыбінскім пеўчым клімат сапраўднага, роднага кутка. Знаёма гучалі тут распяваныя імі рэлігійныя творы колішніх і сучасных кампазітараў. Песня пра князя Аляксандра — апекуна рыбінскай царквы надта спадабалася матушцы Людміле з Вострава. Неўзабаве прагучыць яна і ў мурах востраўскай царквы. Словы і ноты гэтай песні матушцы ўручыў сам хормайстар, спадар Сяргей. Цяжка было крынчанам расстацца з маладымі „Сакалятамі". Хацелася затрымаць іх надаўжэй, але сумленне не дазваляла мучыць і так стомленых далёкай дарогай школьнікаў. Рыбінскім вучням музычнай гімназіі трэба было адпраўляцца далей, у Беласток. Там чакалі іх новыя сустрэчы і святкаванне дваццаць першай гадавіны перанясення мошчаў святога дзіцятка Гаўрыіла, спалучанае з XVII Беластоцкімі днямі царкоўнай музыкі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Фота Альжбеты КАЛІСЦЯК

На здымку: Беларуская група ў час супольнай працы

# Новая матура па-новаму

Адным з вынікаў рэформы адукацыйнай сістэмы напрыканцы мінулага стагоддзя былі змены ў экзамене на атэстат сталасці. Апрача формулы памянялі таксама яго назву на матуральны экзамен, які ўпершыню здавалі вучні звышгімназічных школ у 2005 годзе. Паўсюдна прынялася назва «новая матура», хіба таксама таму, каб адрозніць яе ад старой матуры, якая яшчэ паралельна функцыянавала некалькі добрых гадоў.

Дык рэформы ў адукацыі адбываюцца пастаянна і наступіў час мадыфікаваць матуральны экзамен. Галоўная яе мэта заключаецца ў як найлепшай падрыхтоўцы моладзі да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. З днём 1 верасня г.г. уступіла ў сілу распараджэнне міністра адукацыі, якое м.інш. уводзіць змены ў вышэйзгаданы экзамен. Такім чынам, пачынаючы з 2015 г., каб здаць матуру, трэба (як і дагэтуль) набраць мінімум 30 працэнтаў пунктаў па ўсіх абавязковых вусных і пісьмовых экзаменах (здаюць іх на падставовым узроўні) ды (новаўвядзенне) прыступіць прынамсі да аднаго экзамену на пашыраным узроўні, без г.зв. „парога здавальнасці". Значыцца, вынік не ў кожным выпадку такі істотны, а самае галоўнае — прыступіць.

Найбольшыя змены ў спосабе здавання экзаменаў чакаюць матурыстаў на польскай мове ды мовах нацыянальных меншасцей, значыцца — таксама беларускай. У вуснай частцы знікаюць г.зв. прэзентацыі, якія заключаліся ў выказванні вучня на раней выбраную і падрыхтаваную тэму. Неафіцыйна гаварылася пра масавы гандаль такімі працамі ў сеціве. Цяпер гэта будзе адбывалася „з ходу" — матурыст (напоўнены ведамі і ўмеласцямі за час вучобы) увойдзе ў экзаменацыйную залу, выбярэ (у выніку жараб'ёўкі) тэму выказвання разам з тэкстам культуры, падрыхтуецца, а затым выкажацца перад камісіяй, якая потым правядзе з ім размову. У пісьмовай частцы экзамену будуць ацэньваца ўмеласці вучня, а таксама ход яго разважанняў. Дазвалялася, больш чым раней, на ўласную, суб'ектыўную інтэрпрэтацыю літаратурных твораў, толькі трэба яе добра абгрунтаваць. Нагадаю, што дагэтуль была адпаведная мадэль адказаў, у якую вучню трэба было трапіць.

Не ўсе зацікаўленыя матуральным экзаменам атрымалі дагэтуль дастатковую інфармацыю пра змены, тым болей трэба падкрэсліць факт, што асобы адказныя за нацменшасці як у Акруговай экзаменацыйнай камісіі (АЭК) у Ломжы, так і ў Цэнтральнай экзаменацыйнай камісіі (ЦЭК) у Варшаве справіліся з гэтай задачай выдатна. Менавіта яшчэ пад канец мінулага года правялі яны чатыры семінары з удзелам настаўнікаў, экзаменатараў, аўтараў і рэцэнзентаў матуральных задач сярод беларускай, украінскай, літоўскай і кашубскай нацыянальных меншасцей. У час сустрэч, якія адбываліся ў адной са сталічных гасцініц, усе сабраныя знаёміліся з новымі законамі, дакументамі, выконвалі шматлікія практыкаванні, распрацоўвалі задачы ў новы інфарматар. Працавалі яны сумесна ды ў групах паасобных нацыянальнасцей. Усе заняткі прафесіянальна вялі прадстаўнікі вышэйзгаданых устаноў: Люцына Грабоўская — тадышні кіраўнік Матуральнай групы ЦЭК, Паўліна Аляхоўская — адказная за мовы нацыянальных меншасцей у ЦЭК, Альжбета Калісцяк — каардынатар матуральнага экзамену з АЭК у Ломжы.

Дзякуючы гэтым курсам, настаўнікі-беларусісты ў ліцэях Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага ведаюць як працаваць ужо з першакласнікамі, каб як найлепш падрыхтаваць іх да новай матуры ў 2015 годзе.

**Ян КАРЧЭЎСКІ**



# ПАБОЧНЫЯ ЭФЕКТЫ

**Прыходзіцца лячыцца. З мусу купляеш торбу лякарстваў. Па дадзеных даследаванняў, пабочныя эфекты прэпаратаў з'яўляюцца трэцяй па значнасці прычынай смерці пасля хвароб сэрца і рака. У Англіі колькасць смерцяў ад пабочных эфектаў лекавых сродкаў аж утрая большая чым колькасць ахвяр дарожных аварый. Найбольшую трывогу, аднак, выклікае шырокараспаўсюджаная практыка фармацэўтычных кампаній, якія выдаляюць небяспечныя лякарствы з рынку толькі пасля таго, як яны прынясуць адпаведны прыбытак або калі назапашваецца вялікая колькасць судовых пазоваў.**

На гэтым не канчаецца. Хімічная субстанцыя вяртаецца ў абарот. Пад іншай назвай, з іншым тэрапеўтычным паказаннем, і для іншых мэтавых груп. Даследнікі з універсітэта Адэльфі ў Гардэн-Сіці правялі даследаванне, якое паказала, што альтэрнатыўныя метады лячэння могуць быць больш эфектыўныя, чым сучасная медыцына. Сарганізавалі яны тры групы пацыентаў, пакутуючых дэпрэсіяй. Першая прымала антыдэпрэсант (сертралін), другая — два разы на тыдзень на працягу месяца ўдзельнічала ў псіхатэрапіі, а трэцяя прымала плацэба (інертнае рэчыва, не маючае ўплыву на стан здароўя пацыента). Калі пасля 8 тыдняў сертралін і плацэба не давалі эфектаў, замянялі лякарства іншым. Пасля 16 тыдняў тэрапеўтычны эфект усіх груп быў вельмі падобны, з-за чаго не мог быць статыстычна значным.

Медыцынскія міфы і тэорыі змовы афіцыйнай медыцынай прызнаюцца як належнае. Вось медыцынскі міф, што вялікія дозы вітаміну С часта ўплываюць на захворванне нырак. Гэты міф быў створаны па прынцыпе, што ў адной „пані Гваздзіковай" пасля вялікіх доз вітаміну С была сцверджана часовая ныpачная недастатковасць (пасля „Фурагіна" яна мінула). Гэта вельмі рэдка сустракаецца ў людзей схільных да захворвання, значыць, лечаных сінтэтычнымі матэрыяламі, якія самі па сабе шкодныя для нырак („Пабяльгін" ужо выключаны з абароту, і іншыя). Вядома, такія здарэнні абмяркоўваюцца ў калідорах клінік ці ў іншых падобных выпадках як „адна баба другой бабе сказала". Гэты міф быў першапачаткова „гарадской легендай", прынятай на аснове чутак (нешта накшталт чорнай „Волгі" і г.д.). Затым міф быў падхоплены афіцыйнай медыцынай — зусім нядаўна, калі на рынку сталі даступныя прэпараты вітаміну С у высокіх дозах (1000 мг) і калі павысілася грамадская свядомасць. Першапачаткова гарадская легенда стала настолькі медыцынскай тэорыяй змовы, што цяпер паўтараецца лекарамі, абмяркоўваецца ў час абучэнняў і бяздумна пераймаецца на дыскусійных форумах і ў інтэрнэце ў цэлым. Вядома — ужыванне вітаміну С з'яўляецца канкурэнцыяй для афіцыйнай медыцыны, а медыцына не можа вытрымаць канкурэнцыю (калі невядома, у чым справа — гаворка пра грошы).

Яны прысутнічаюць на тэлебачанні, у газетах, у інтэрнэце, на рэкламных шчытах і на радыё. Гавораць пра іх прафесіяналы, знакамітасці, суседзі. Яны абяцаюць сенсацыйныя эфекты, паляпшэнне здароўя і лепшае жыццё. Рэкламы цудадзейных лякарстваў! Слепа верым, што ўратуюць яны нас ад болю, пакут і мільёнаў хвароб. Глытаем іх жменямі, таму што мы атрымалі іх ад лекараў — спецыялістаў у галіне медыцыны, часта званых цудатворцамі. А ці мы калі задумваліся над пабочнымі эфектамі фенаменальных лякарстваў? Ці ўлёткі падаюць толькі праўдзівую інфармацыю? Ці лекары сапраўды ведаюць пра ўсё? Ці мы падумалі аб тым, што можам быць здаровымі, не глытаючы ўсіх гэтых каляровых таблетак? Трэба абвергнуць медыцынскія міфы, якіх нас вучаць на працягу многіх гадоў! І час ёсць права на тое, каб ведаць. Вось міф — „прэпараты з'яўляюцца бяспечнымі". Пабочныя эфекты з'яўляюцца трэцяй па значнасці прычынай смерці ад хвароб сэрца і рака. „Беноксапрофен" — прэпарат супраць рэўматызму і супрацьзапаленчы сродак. Меў быць глабальным бестселерам. Масава прапісваўся па рэцэптах лекараў у Даніі, Нямеччыне і Вялікабрытаніі. Пакуль не выяўляліся імёны ахвяр пабочных эфектаў. А выклікае ён сур'ёзныя пашкоджанні печані і смерць. Прэпарат быў адкліканы з рынку ЗША ў 1982 годзе, калі баланс налічыў 27 смерцяў і 200 параз печані і нырак. У 1985 годзе фармацэўтычная кампанія „Eli Lilly", якая выпусціла гэты сродак на рынак лякарстваў, добраахвотна прызналася ва ўтойванні фактаў, якія тычацца смерці. Пакаранне? 25 тысяч долараў. Гэта тым не менш не перашкодзіла фірме „Merck" выпусціць у 1999 годзе на рынак той жа прэпарат мадыфікаваны толькі на адну малекулу і з новай назвай — „Vioxx® (Rofecoxib)". Трохгадовае атэстацыйнае даследаванне паказала, што 25 мг рофекоксібу, якое павінна было не дапусціць паўтарэння паліпаў тоўстай кішкі — павышала частату інфарктаў і інсультаў сярод пацыентаў. Тавар быў зноў адкліканы з рынку 30 верасня 2004 г. Усё ж заставаўся ў органах 80 мільёнаў людзей на свеце, якім трывала пашкодзіў сардэчна-сасудзістую сістэму і паскорыў зацвярдзенне крывяносных сасудаў, выклікаючы інсульты і высокі крывяны ціск. Кампаніі прыйшлося развітацца з 11% ад выручкі і 2,5 мільярдам долараў у год на рынку ва ўсім свеце. Нягледзячы на тое, што фірма паводзіла сябе скандальна да зняцця прэпарату з рынку, спрабуе яшчэ прымусіць замаўчаць аднаго з навукоўцаў, пагражаючы яму зламаннем кар'еры, заплаціла 4,85 мільярдаў долараў кампенсацый...

Вучань спытаўся ў свайго майстра: „Вы такі разумны. У вас заўсёды ёсць добры настрой, ніколі не злуецеся. Дапамажыце мне, каб я стаў такім як вы". Майстар пагадзіўся і папрасіў вучня прынесці бульбу і заплечнік: „Калі на кагосьці пакрыўдзішся або ўзлуешся і захаваеш крыўду, — сказаў настаўнік, — вазьмі бульбіну, напішы на ёй імя чалавека, з якім у цябе быў канфлікт, і пакладзі бульбіну ў свой заплечнік". — „І гэта ўсё?" — здзіўлена спытаўся вучань. — „Не, — адказаў майстар. — Ты павінен заўсёды насіць заплечнік з сабою. Кожны раз, калі на кагосьці пагнешваешся — дакідвай наступную бульбіну". Вучань выконваў усё па інструкцыі майстра. Час ішоў, заплечнік з бульбай стаў цяжкім. Насіць яго ўсюды было вельмі няўручна. Акрамя таго, бульбіна, якая трапіла ў заплечнік першай, пачала гніць, пакрылася ліпкай, смярдзючай слізззю. Іншыя бульбіны пускалі пабегі, псаваліся, выдзялялі рэзкі, непрыемны пах. Вучань прыйшоў да майстра і пачаў скардзіцца: „Я не магу насіць з сабой паўсюль гэтае свінства. Па-першае, заплечнік зацяжкі, а па-другое — бульба псуецца. Запрапануйце мне іншае вырашэнне". Майстар адказаў: „Тое ж самае адбываецца ў тваёй душы. Проста не заўважаеш гэтага адразу. Дзеянні замяняюцца ў звычку. Звычкі становяцца характарам, які вырабляе смярдзючыя рысы. Я даў табе магчымасць паназіраць за працэсам. Кожны раз, калі ты вырашыш крыўдаваць, ці наадварот — кагосьці пакрыўдзіць — думай аб тым, ці табе патрэбная дадатковая бульбіна"...

**Міра ЛУКША**

## Брудныя дашкі

У Гайнаўцы ёсць два маршруты, па якіх ездзяць аўтобусы гарадской камунікацыі. Ля іх на аўтобусных прыпынках пабудавалі шмат прыстрэшкаў. Навейшыя міні-пачакальні стаяць у цэнтры горада па вуліцы 3 Мая і па вуліцы Баторыя. Але нават на гэтых галоўных вуліцах прыходзіцца чакаць „свайго" аўтобуса пад брудным дашком. Па ўсім відаць, што ў горадзе ўвогуле і ніколі іх не мылі.

Прыстрэшкі брудныя, запыленыя, а на іх сценах непрыстойныя надпісы спрэем і розныя крамзолі. Сценкі з плексігласу з дзіркамі — іх хуліганы прыпякалі запаленымі папяросамі або запалкамі. З лавачак карыстальнікі сцерлі фарбу і іх трэба памаляваць. Зараз варта паклапаціцца асабліва пра тыя дашкі, якія знаходзяцца пад дрэвамі і на іх ляжыць шмат апаўшага з дрэў лісця.

Дробны асенні дождж дашкоў не памые. Неабходная для таго людская рука, ануча і вада з парашком для мыцця. На стрэшкі ападае пыл, які ўзнімаюць аўтамабілі ды адарванае ветрам сухое лісце і галінкі дрэў. Пра прыстрэшкі трэба належна дбаць.

Варта дадаць, што сценкі прыстрэшкаў гэта не дошкі аб'яў. А яны ж у Гайнаўцы бываюць раз менш, раз больш заклееныя рознымі афішамі і прыватнымі камерцыйнымі аб'явамі ды аб'явамі пра недзе загінуўшых коцікаў і сабак або пра згубленыя дамашнія ці аўтамабільныя ключы.

## Запрашэнне да конкурсу

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы запрашае да ўдзелу ў фатаграфічным конкурсе „Падляшша ў аб'ектыве". Прыняць удзел у ім можа кожны ахвотны жыхар Беласточчыны і іншых рэгіёнаў нашай краіны — фотааматар і прафесіянал. Тэма конкурсу — Падляшша з яго прыродай, архітэктурай, людзьмі. Арганізатару залежыць на тым, каб фатографы паказалі прыгажэйшы бок Падляшша.

Мінімум тры фотаздымкі фарматаў А3 і А4 дасылайце да 15 лістапада гэтага года ў гайнаўскі Музей і асяродак беларускай культуры.

Дэталёвую інфармацыю пра конкурс можна прачытаць на сайце: www.muzeumbialoruskie.hajnowka.pl

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Моладзь — аздоба парафіі

Бываюць у жыцці хвіліны, якія памятаем усё жыццё. Такой падзеяй стала вяртанне на радзіму памяці пра св. пакутніка Георгія з Палічнай (у міры Юры Сцепанюка, які жыў у 1881-1918 гадах і загінуў з рук бальшавікоў). 27 верасня г.г. у пушчанскай царкоўцы ў Вэрстоку адзначылі парафіяльнае свята, у час якога мітрапаліт Сава асвяціў ікону святога. Першаіерарха прывітала мясцовая моладзь: Дамініка Карпюк з Вэрстока, Юліта Карпюк з Забагоншчыны і Марк Саевіч з Вілюкоў.

Гэты жэст спадабаўся госцю, які не шкадаваў добрага слова маладым.

Якраз у вэрстоцкай царкве ў 1881 годзе архрысцілі святога пакутніка Георгія. Тут, на мясцовых могілках, спачываюць яго продкі і сваякі. А ў родрай вёсцы Палічнай стаіць драўляная хатка. Як кажа пані Ніна Казачук, сваячка святога, яна цудам захавалася ад пажару. Праўда, у гэты дар цяжка ячшэ паверыць мясцовым...



Аднак ужо ў час свята, якое вылучалася духоўнай прыгожасцю, усе адчувалі сябе вылучанымі і пазітыўна збудаванымі.

ЗОРКА

# Канец лета — пачатак восені!

Ужо канец лета. А так нядаўна была вясна. Канец канікул, марожанага, загарання ля мора, падарожжаў у горы, вады ў басейне. Шкада. Але з другога боку, у нас пачатак восені. Час збіраць каляровыя лісткі: чырвоныя, бронзавыя і аранжавыя. Трэба пайсці ў лес па грыбы і назбіраць садавіны на суш. Не трэба думаць пра зіму і завеі. За дзесяць месяцаў лета.

**Віка Кардзюкевіч,**
*V клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

# Заняткі перавернутыя з ног на галаву!

Хаця навучальны год ледзь-ледзь пачаўся, ужо прынёс нечаканыя сустрэчы і патрабаванні ад вучняў беларускай мовы. Як выглядаюць заняткі — кожны ведае. На старонках, якія чытаюць перадусім дашкольнікі, няма патрэбы гэтага разглядаць. Хаця, калі 6 гаварыць аб незвычайных занятках, якія прайшлі ў школе імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, можна падумаць, што хтосьці перавярнуў усё з ног на галаву. Тут за школьныя лаўкі селі самі настаўнікі, не толькі з Польшчы, але і з Беларусі. Сярод іх вядомыя прафесары, напрыклад, Алег Латышонак, які вучыць крыху старэйшых фанатаў гісторыі, старшыні сур'ёзных арганізацый, асобы, якія рэалізуюць сур'ёзныя праекты. Усе яны сядзелі ў вучнёўскіх крэслах і слухалі дзяцей! Што цікавае, самі „вядучыя заняткі" вельмі добра сябе адчувалі ў новай для сябе ролі.



Фото Улі ШУБЗДЫ

Каб заняткі не былі аднастайнымі, вучні дэкламавалі вершы вядомых беларускіх літаратараў, з якімі выступалі на самых важных конкурсах. Былі і песні, якія спявалі ўжо не толькі дзеці. Да іх спантанна далучаліся прыбылыя госці. Апрача таго, каб лепш праілюстраваць неабходнасць добрых паводзін, вучні паказалі сцэнку пад загалоўкам „Урок ветлівасці". Відавочна, у гэтым жанры дзеткі з'яўляюцца такімі экспертамі, што ніхто з дарослых гасцей не шумеў і не перашкаджаў у занятках.

**Уршуля ШУБЗДА**

# Вершы Віктара Шведа

## Цяжкая англійская мова

Настаўніка вучань пытае:
— Ці англійская мова цяжкая?
Настаўнік сказаў абібоку:
— Цяжкія пяць першых урокаў.

На гэта вучань нядбалы
Выхад знайшоў дасканалы:
— Ад шостага ўрока спачатку
Пачнем мы нашы заняткі.

## На ўроку

Скажыце мне дзеці —
Што гэта за вочы:
Адно ў дзень нам свеціць,
А другое ўночы?

Нясмелай Алёнцы
Падказвае Вася:
— Днём нам свеціць сонца,
Ну а ночу месяц.

# Навука таксама можа быць прыемнай!

**Навучальны год пачаўся не толькі вучням, але і дарослым. Доказам гэтаму з'яўляюцца заняткі, якія прайшлі на мінулым тыдні ў пачатковай школе імя Кірылы і Мяфодзія (пра якія мы таксама пішам у гэтым нумары), і тыя, якія адбыліся ў беластоцкай „чацвёрцы". Тут сабраліся амаль усе настаўнікі беларускай мовы з Польшчы!**

Як аказваецца, не толькі цяжкая праца чакае вучняў цягам цэлага навучальнага года. Настаўнікі таксама маюць шмат абавязкаў, звязаных з адпаведнай падрыхтоўкай. Каб правесці цікавыя заняткі, з якіх дзеці даведаюцца шмат новага аб роднай мове, настаўнікам трэба сядзець нярэдка даўжэй, чым вучням над дамашняю работай. Перш за ўсё настаўнікі хочуць пераканаць дзяцей да гэтага, што навука таксама можа быць прыемнай. Менавіта гэта з'яўлялася тэмай майстар-класаў для педагогаў, якія вучаць беларускай мове.



У „Склепе з культурай", які знаходзіцца ў Пачатковай школе па вуліцы Чэнстахоўскай, сабраныя настаўнікі ў першай частцы сустрэчы мелі магчымасць паглядзець, як дзеці, гуляючы, адначасова вучацца беларускай мове, пазнаюць творчасць вядомых паэтаў ды развіваюць мастацкія здольнасці. Вучні беластоцкай „чацвёркі" якія займаюцца ў тэатральным гуртку, так добра адчувалі сябе на сцэне, што сапраўды спектакль больш нагадваў гульню. Хаця напэўна неабходная была адпаведная падрыхтоўка да ролі кажана, сарокі ці стомленага веласіпедыста. Спектакль пастаўлены на аснове вершаў беларускай паэтэсы Міры Лукшы. Усім чытачам „Зоркі" напэўна добра вядомая яе кніжка „Жывінкі з глыбінкі". Усім, якія чыталі вершы і ведаюць забаўныя прыгоды звяркоў, напэўна таксама спадабаўся б спектакль. А на гэты ў „Склеп з культурай" запрашае настаўніца, вядучая тэатральны гурток Аліна Ваўранюк. Паводле яе слоў, усе дзеці, якія хочуць паглядзець „Гульню ў тэатр", будуць мілымі гасцямі ў беластоцкай „чацвёркі".





**Уршуля ШУБЗДА**

# Мае канікулы

Я адпачывала ў Францыі, на Лазурным Берагу, у мясцовасці Лебрус. Там даходзіла да 40 градусаў цяпла. Я хадзіла на пляж. Ён крышку пясчаны, але ў асноўным каменны. Камяні там разнаколерныя: зялёныя, ружовыя, шэрыя... Я была там тры тыдні і жыла разам з французамі: Ясем, Нінай, цёцяй Ізай і Фрэдам, а таксама з маёй каханай мамай, бацькам, сястрой, братам і дзядзькам. Мы былі таксама ў Ніцы. Калі мы вярталіся з Францыі дамоў, мы завіталі да бабці Гені і дзядулі Кубы. У іх мы асталіся з сястрой і братам яшчэ на тры тыдні. Бабулю і дзядулю з боку мамы я бачу раз у год. Яны жывуць за Шчэцінам. Разам з бабуляй і сястрой мы ездзілі на веласіпедах. Мы хадзілі да нашых сваякоў — Кубы і Паўла. Куба старэйшы за мяне на год, а Паўлу ўжо васемнаццаць гадоў. Ён — чэмпіён Польшчы ў гонках JUNIOR. Мы ездзілі разам у Гожуў. Разам з хлопцамі і маёй сястрой Зузяй мы хадзілі да нашых сваякоў: Веніяміна і Самуіла. Веніямінку ўсяго некалькі месяцаў, а Самі (мая сям'я так яго называе) — два гады. Гэта цудоўныя дзеткі.

У час канікулаў я наведала яшчэ многа іншых месц і людзей. Але пра ўсё немагчыма напісаць...

**Віка Кардзюкевіч,**
*V клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36:**
Дар, сто, капуста, памідор, цана, Ала, рынак, від, рака. Акацыя, раман, Піна, цудак, страва, лік, вада.



# Фатаграфічная археалагічная экспедыцыя

Летам рушылі ў польска-беларускае пагранічча. Шукалі (і дасюль шукаюць) старых фотаздымкаў. З польскага боку ў Гарадку і Кляшчэлях, з беларускага — у Сапоцкіне, Лунне, Ваўкавыску, Воўпе і Камянцы. Ездзілі па старых хатах, гадзінамі размаўлялі з мясцовымі жыхарамі. Дакопваліся да фатаграфій даваеннага перыяду, а таксама да здымкаў зробленых пасля вайны. Нядаўна часта хаваных, часта лічаных неістотным смеццем. Запісвалі гісторыі ўладальнікаў фатаграфій і тых, хто на іх увекавечаны. Негатывы здымкаў адсканавалі. Неўзабаве з амаль 120 фотаздымкаў, выбраных на пагранічны з больш чым дзвюх з паловай тысяч, узнікне альбом.



Гарадок

Яшчэ перад летнім паходам аўтары праекта „Albom.pl" Уршуля і Гжэгаж Дамброўскія з Беластока (яна родам з Гайнаўкі) напісалі на Фейсбуку: „Паграбемся ў даступных нам прыватных „архівах", вылаўліваючы фатаграфіі, якія паказваюць гісторыю сям'і і вёскі з пункту гледжання ўдзельнікаў падзей. З нецярпеннем разлічваем на цікавыя карціны. Распытваем пра іх мясцовых, але голас даем у асноўным фатаграфам, таму што вобразы гавораць на мове больш зразумелай, асабліва на памежжы". У апошні час некаторымі фатаграфіямі і ўражаннямі ад паездкі падзяліліся яны падчас сустрэчы ў Беластоку ў галерэі „Тэлімэна".

— У нашых паходах прымае ўдзел шэсць чалавек — па трое з Беларусі і Польшчы. Не намагаемся зрабіць усяго, поўнасцю завяршыць справу. Мы выбралі для тэставання сем мясцовасцей. Гэта яшчэ незакончаны праект, — распавядала Уля Дамброўская, каардынатарка праекта.

Гжэгаж Дамброўскі, фатограф, галоўны рэдактар беластоцкага дадатка „Выбарчай газеты" расказваў:

— Мы нічога не прадугледжвалі. Знайшлі шмат фатаграфій з міжваеннага перыяду, нават яшчэ з часу да першай сусветнай вайны. Яны выкананы таксама ў іншых рэгіёнах, чым тыя, у якіх мы былі, напрыклад, у Варкуце і Адэсе. Ёсць таксама партрэты людзей, якія загінулі падчас бальшавіцкай рэвалюцыі.

Гжэгаж Дамброўскі некалькі гадоў таму паказаў свету Баляслава Аўгусціса (1912-1995), фатографа, які заставаўся цалкам забытым да выпадковага адкрыцця двума падлеткамі ў чэрвені 2004 года некалькіх тысяч ягоных фатаграфій у пакінутай маёмасці па вуліцы Бэма ў Беластоку. Дзякуючы намаганням Гжэгажа фатаграфіі (зробленыя ў 1935-1939 гг.) былі забяспечаны і ачышчаны. Аўгусціс, родам з сям'і ссыльных студзеньскіх паўстанцаў, быў прызнаны выдатным фатографам. Яго фотаздымкі ўяўляюць вялікую мастацкую і дакументальную каштоўнасць. Здымаў ён пешаходаў і важных падзеі ў Беластоку (яго бацька пасля савецкага ўварвання ў Польшчу быў зняволены і ў турме ў Мінску прапаў яго след). Падобнае адкрыццё трапілася Гжэгажу Дамброўскаму падчас летняй паездкі. У перапынку сустрэчы ў „Тэлімэне" сказаў ён „Ніве":

— Я вельмі эмацыйна вяртаюся ў Кляшчэлі. Там мы пачалі нашае падарожжа. Там адбылося нешта цуднае, мы знайшлі негатывы фатографа Юрыя Костка. Найстарэйшы негатыў датуецца 1926 годам. З таго, што сказалі нам кляшчэлеўцы, Костка размаўляў на прыгожай рускай мове, у горадзе, тады вёсцы, дзе жыхары гавораць, вядома, апрача польскай, на беларускай і ўкраінскай мовах. Меў ён у Кляшчэлях фотаатэльэ. Пасля выяўлення Аўгусціса, мне ўдалося знайсці другую такую ж уражваючую, таксама забытую і вялікую калекцыю фатаграфій, прафесійных, зробленых аматарам. Гэтыя фатаграфіі зроблены цалкам у прафесійным стылі міжваеннага перыяду. Падобныя фатаграфіі рабілі ў Нямеччыне, па меншай меры такія захаваліся і такія нам вядомыя. Тут вясковы фатограф выкарыстоўвае падобную кампазіцыю, падобна здымае людзей у атэльэ.

У прыватнасці ўспамінае:

— Зачаравала мяне вельмі спадарыня Галіна Матэйчык з Гарадка, якая была консулам у Ліёне і Маскве. Калі яна выйшла на пенсію, прадала кватэру ў Варшаве, вярнулася ў дом сваіх бацькоў у Гарадку. Сярод здымкаў, якія захаваліся ў яе, вядома, ёсць сямейныя: братоў, бацькоў, але і тыя, якія зрабілі Ёзеф Абраміцкі, да вайны апякун, між іншым, гарадоцкага габрэйскага драматычнага кружка. Яна распавяла нам гісторыю Льва Цукермана, да вайны вельмі паважанага гарадоцкага лекара, паважанага незалежна ад таго, кім былі гарадчане — палякамі, беларусамі ці габрэямі. Трапіў у гарадоцкае гета. Адтуль палякі дапамаглі яму збегчы. Немцы ў рэшце рэшт злавілі яго зноў, і, калі яго вялі назад у гета, увесь Гарадок выйшаў на вуліцы і ўсе плакалі.

Абое падарожнікі ўспаміналі:

— Калі мы сядзелі з пажылымі людзьмі, спачатку многія з іх махалі рукой і казалі: „І нашто гэта", „Не варта", „Нашто ўспамінаць!". Але ў момант, калі адкрывалі альбомы і паказвалі першы здымак, пачыналі хваляваца, нават плакалі. Былі здзіўлены, што камусьці чужому гэта цікава. З іншага боку, часта цешыліся, што могуць свае гісторы пераліць з сябе.

Сярод знойдзеных здымкаў можна ўбачыць фатаграфіі зробленыя НКВД да пачатку працэсу групы маладых хлопцаў з раёна Ваўкавыска, якія заснавалі падпольную арганізацыю пад назвай CzWO — Чатырохрогія (ад шапкі-рагатыўкі) вызваліцелі айчыны. Галавой быў Уладзіслаў Ухналевіч, а наймалодшаму змоўшчыку было 16 гадоў. Яны былі арыштаваны ў 1950 годзе па падазрэнні ва ўдзеле ў антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі, якая хацела ўсталяваць капіталістычны лад у Польшчы ў межах да 1939 года. Асудзілі іх на 25 гадоў лагераў.

У запісках экспедыцыі спадарства Дамброўскіх, пры ўжо часткова апісаных фатаграфіях, можна прачытаць: „Ваўкавыск незвычайны ва ўсіх адносінах. Да вайны працавалі там па меншай меры чатыры фотаатэлье, у асноўным габрэйскія. Найбольш вядомай была студыя Якава Мілера, дзе фатаграфаваліся багатыя гараджане ўжо ў 90-х гадах XIX стагоддзя. Але тым не менш мы знаходзім фатаграфіі гэтак званых аматараў, некаторыя знакамітыя". Іншы запіс: „Партрэты жыхароў Воўпы. Сям'я Бабялевічаў, Кураньчыкаў, невядомыя жыхары на фотаздымках з калекцыі мясцовай школы".

Пры яшчэ іншых здымках: „Гарадок, другая палова 30-х гадоў. Злева Аляксандр Бура, далей браты Гедзічы, падчас вайны ўзятыя на працу ў Нямеччыну, адкуль не вярнуліся. А аб пану на заднім плане невядома нічога. Фотаздымак Ёзефа Абраміцкага, даваеннага гарадоцкага фатографа, з калекцыі Галіны Матэйчык. Незвычайны архіў і надзейная памяць спадарыні Галіны Матэйчык з Гарадка. На першым здымку Хая, 20-я гады. Фота вераготна Ёзефа Абраміцкага, гарадоцкага фатографа і задно цырульніка".


Ваўкавыск


Кляшчэлі

Ці ў сувязі з прыгаданым Юрым Косткам:

„Ён меў звычку здымаць у сябе дома, на фоне палатна з бярозкамі, або ў садку. З нагоды святаў у двары ставалі да фотаздымкаў чэргі. Паходзіў ён з Кляшчэль. Яго бацька і брат былі тут кіраўнікамі чыгуначнай станцыі. У Юрыя былі два браты і сястра, якая выехала ў Расію. Усе яны ўжо памерлі. Юрый Костка размаўляў на чыстай рускай мове, як ні дзіўна ў горадзе, дзе ўсе гавораць «па-свойму» (цвёрда, на ўкраінскі манер) і па-польску, а да вайны і на ідыш. Быў балбатуном у кампаніі. Загартаваны кавалер (памёр у адзіноце), хаця бабнік. Увогуле, постаць у Кляшчэлях папулярная і даволі харызматычная. На жаль, у нас няма яго фатаграфіі (абяцаў падзяліцца ёй са сваіх калекцый вядомы радыёрэпарцёр Ян Смык — М. Х.)! З падстрэшка ў доме пана Юрыя Костка ў Кляшчэлях большая частка архіва была выкінута пасля яго смерці. Ацалелі адбіткі раскіданыя па дамах і, як аказалася, гэтыя аскепкі ў пілавінні». У іншым месцы: „На партрэты пяцідзесяцігадовай даўнасці і старэйшыя, аднак, глядзіцца інакш, чым на сучасныя фатаграфіі і разнастайныя „салодкія фотачкі». Уражвае свядомасць, што большасць гэтых людзей спазнала ўжо канчатковую таямніцу, і фатаграфія з'яўляецца ў поўным сэнсе медыумам, праз якое працягваецца кантакт з імі. Але і яны інакш глядзяць у аб'ектыў, не манерацца, і хутчэй не пазіруюць. Стаяць проста, рукі «па швах», сур'ёзна глядзяць неперад. Фатаграфаваліся таму, што не ведалі што будзе заўтра. Костка таксама фатаграфаваў падчас акупацыі, здымкі датуюцца 1942-1943 гадамі. Нехта прыехаў, каб зрабіць здымак, таму што бачыў у папярэдні дзень, як немцы ўзялі ўсё кляшчэлеўскае гета, больш за 700 яўрэяў, трацiну горада. Ён не ведаў, што будзе заўтра. Ён фатаграфаваў на вечную памяць, каб застаўся нейкі след. І мы гэты след адкрываем».

Уля Дамброўская ў „Тэлімэне" заўважыла:

— У мяне склалася ўражанне, што на польскім баку (пасля пасляваеннай дэмаркацыі межаў — М. Х.) людзі надаюць большае значэнне здымкам, чым на беларускім. У Беларусі часцяком наўмысна былі яны спалены.

Гжэгаж:

— Самае галоўнае, што ёсць людзі, якія гэтыя гісторыі з мінулага на сучасным пагранічны гатовыя дастаць з шуфляд, з гарышчаў.

Праект „Albom.pl" быў фінансаваны Дэпартаментам грамадскай і культурнай дыпламатыі Міністэрства замежных спраў у рамках конкурсу „Сумесныя польска-беларускія дзеянні".

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Здымкі знойдзены ў рамках праекта Albom.pl**

Колькасць дарог у Масева меншае. Яшчэ трыццаць гадоў таму можна было праехацца ў пушчанскую вёску напрасткі з Гушчэвіны, цяпер жа тая дарога, як паказвае дарожны знак пастаўлены ўжо ў глыбіні лесу, толькі для транспарту лясной адміністрацыі, так як і шматлікія пушчанскія жвіроўкі. Аднак калі там трасіраваны веламаршрут, тады быццам можна на ровары. Рызыкую і ўдаецца даехаць да афіцыйнай асфальтоўкі і да пушчанскага „канца свету”...



Крыжы ў Масеве

# Пушчанскае пагранічча

Сапраўды, зараз за Старым Масевам дзяржаўная мяжа, якая аддзяліла вёску ад яе традыцыйнай грамадскай супольнасці з цэнтрам у прыхадской калісь Ціхаволі, якая асталася на ўсходнім баку шчыльнай „граніцы дружбы”. Праўда, быў час, калі тая граніца, нягледзячы на суровыя савецкія забароны, дапускала нейкую сакрэтную дыфузію дабра на ўзроўні дзеючага там службовага і неслужбовага народу, але ўсё да часу. Зараз граніца выконвае, здаецца, усе стандарты прадбачанай непранікальнасці. Бо, папраўдзе, няма там нават каму займацца неафіцыйным трансгранічным „спортам”. А афіцыйна *нельзя*, нават славутаму малому прыгранічнаму руху.

Масева апусцела і пастарэла. Калісь, пры маёй маладой памяці, была гэта даволі шчыльная вуліцоўка, у вёсцы працавала школа, а зараз вялікія прабелы пустых сядзіб. А яшчэ ў „дагранічны” час Масева было даволі важнай вёскай Пружанскага павета. У Масеве быў цэнтр гміны, якая ахоплівала абшар усёй паўночнай часткі Белавежскай пушчы. Масеўская гміна расцягалася аж пад Гайнаўку — ахоплівала яна Дубіны і Ліпіны, Смаляны Садок, Галякову Шыю, Барначчыну, Падляўкоўе... Загранічныя вёскі былой гміны — Тушамля, Ціхаволя ці Нямержа — зараз у межах Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці.

Юзаф Ярашэвіч, гісторык Вялікага Княства Літоўскага, сам родам з Бельска-Падляшскага, так быў пісаў пра дзейнасць гродзенскага гаспадарчага рэфарматара Антона Тызенгаўза: „Opatrzywszy dobra dostateczną liczbą najpotrzebniejszych rzemieślników, jako to stolarzy, cieślów, kowalów, ślosarzy, szewców i t.d., zwrócił swą uwagę na większe zakłady, to jest takie, któreby nie tylko potrzebie miejscowej, ale nawet widokom korzyści odpowiadać mogły. Stawiał zatem w dogodnych miejscach młyny wietrzne i wodne, zakładał huty, garbarnie, olejarnie, krupiarnie i tysiące rąk zajmował przygotowaniem towarnego drzewa, pędzeniem smoły, dziegciu i wypalaniem potażu. Sławna potażarnia czyli ordasznia była we wsi Masiewo, dokąd popioły z całej Puszczy Białowieżskiej na potaż zwożono”. Значыць Масева каля 1760 года было на свой час буйным прамысловым цэнтрам. Паташ быў сыравінай для вырабу, м.інш. шкла і мыла.

Ота Гедэман, бадай найбольшы аўтарытэт па гісторыі Белавежскай пушчы, быў пісаў, што Масева, так як і тры вёскі побач Белавежы — Пагарэльцы, Тэраміскі і Буды, засялілі буднікі — прышэльцы, мабыць, з Мазовіі: „Byli to t.zw. budnicy, trudniący się wypalaniem potażu na uroczyskach. Uroczysko Masiewo stało się w drugiej połowie XVIII wieku ośrodkiem przemysłu potażowego naszej Puszczy, posiadało urządzenia niezbędne do przeróbki popiołu drzewnego na sole potasowe, czyli poprostu fabrykę potażową. Gdy ta w roku 1792 upadła (co pociągnęło za sobą upadek trzech popielarni — pohorelskiej, teremiskiej i budzkiej), budnicy masiewscy częściowo wyemigrowali do Polski, częściowo osiedli zaś jako rolnicy na przetrzebionych naokoło fabryki gruntach”.

Масеўская фабрыка спыніла дзейнасць, бо ўпаў попыт на яе вырабы. Быў гэта попыт з захаду Еўропы, які спыніўся ў канцы менавіта XVIII стагоддзя, бо ў той час была наладжана буйная вытворчасць паташу ў Канадзе. Складана меркаваць, што сталася б з нашай славутай зараз Белавежскай пушчай, калі б не выручыла яе канадская тайга. Юзаф Ігнацы Крашэўскі так характарызаваў пушчанскага будніка: „Gdzie przeszedł budnik z siekierą swoją na plecach, z sznurkami powiązaną strzelbą na ramieniu, głucha po nim cisza i pnie tylko po nim zostały a spróchniałe kłody. Gdzie zaś sosnowe lasy wyrobiono aż do balów i murłatów, tam w ostatku dziedzic i pnie nareszcie na łuczywo, z którego się pędzi smoła, powydobywać kazał. Widok lasu zniszczonego w ten sposób jest czymś dziwnie smutnym; jest ruiną, gorzej, bo wielkim zdaje się cmentarzem, na którym śmiesznie byłoby zapłakać, a nie można się oprzeć smutnemu wrażeniu. Ogromne tutejsze puszcze, których proste jak trzciny, jak trzciny gładkie sosny masztowe wzrastały wieki, których dęby potężne wanczosów (часткова апрацаванай драўніны) i klepki tak długo dostarczały do Gdańska i Królewca, których gęstych zarośli tyle się w popiół popłatny zmieniło — dzisiaj stały się smutną pustynią, gdzie zwierza spotkać, drzewa dorodnego znaleźć trudno. Łosie, dziki i sarny, i ptastwo nawet uciekło z gołych borów na nieliczne gęstwiny, które trzęsawiska otaczające lub dziwny przypadek od chciwego wyrobku do szczętu ochronił”. А Масева, магчыма, сталася б можа не зруйнаваным рэліктам дзейнасці буднікаў, але свайго роду аграгарадком са спажывецкай прамысловасцю, працуючай у карысць шырокага наваколля...

А мясцовасцю, якая дала разгон тагачаснаму прамысловаму выкарыстанню лясных багаццяў Белавежскай пушчы, выпадае лічыць Шарашова — „гарадскі пасёлак у Пружанскім раёне”, як падае беларускі энцыклапедычны даведнік; першая вестка пра мясцовасць паходзіць з 1380 года. Шарашова было для Масева і навакольных вёсак першым „акном у свет”, па дарозе ў Пружаны. Часта апошнім часам цытаваны мною „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага” так быў пісаў пра гэтую мясцовасць: „Szereszów, miasteczko nad Leśną, w pobliżu jej źródeł, z trzech stron otoczone nieprzebytemi błotami i topielami, z czwartej zaś piaszczystą nieurodzajną równiną. [Ці не буднікі пакінулі за сабою тую раўніну? — А.В.] Mieszkańcy trudnią się oddawna pędzeniem dziegciu. [Да часу запуску вытворчасці шмараў з нафты дзёгаць быў асноўным змазачным матэрыялам — яго вельмі патрабавала рухлівая Еўропа — А.В.] Na początku b. wieku [XIX — А.В.] żydzi tutejsi prowadzili na

працяг ☞10



І дрэвы прагнуць цёплых пачуццяў






9 ☞ працяг

# Пушчанскае пагранічча

wielką skalę kontrabandę, która zupełnie ustała po zniesieniu kordonu granicznego od granicy królestwa. Dekanat (błahoczynie) szereszowski obejmuje 10 parafii [м.інш. „Dubina, Białowieża, Cichowola i Narewka”]. W Szereszewie spoczywa zmarły w 1864 r. Jan Kraszewski, ojciec Józefa Ignacego. Na cmentarzu prawosławnym spoczywają zwłoki uczonego slawisty, profesora uniwersytetu wileńskiego ks. Michała Bobrowskiego”. Міхал Баброўскі, ураджэнец Вулькі-Выганоўскай, даследаваўшы помнікі славянскай пісьмовай даўніны абнародаваў свету г.зв. „Супрасльскі зборнік” — адзін з першых твораў старабалгарскай літаратуры; пра яго было ў „Ніве” дакладна год таму.

Масева было пачарговым уклінаваннем палёў у абшар Белавежскай пушчы. Пачаўся той наступ з Ціхаволі, дзе пасяліліся асочнікі для аховы пушчы. Чарговую дзялянку лесу выцаснілі руднікі, што пасяліліся ў Тушамлі. Гедэман: „Gdzieś koło połowy wieku XVIII rudnia ta (jak i inne białowieskie) upadła, lecz pozostawiła po sobie rozległe wyręby po spalonym przez rudników na węgiel kowalski lesie”. Далей было Масева, а пасля Чало, якое пасля напалеонаўскіх войнаў засяліла група немцаў. Пасля апошняй вайны з польскага боку асталося толькі Масева.

У Масеве наведаў я сваякоў, якім іхні немалады ўзрост дастаўляе дачыненне з нашай славутай службай аховы здароўя. Мог бы хто падумаць, што служба гэтая змагаецца толькі з арганізацыйнымі клопатамі, але ж не толькі. У час аднаго візіту брата ў беластоцкага спецыяліста той раскрытыкаваў ягоную гайнаўскую лекарку, а пасля зноў скіраваў яго да тае ж самае... Здавайся і ў ніз падавайся — развяла на гэта рукі брацiха, а я зразумеў ейнае выказванне як агульную метафару завяршэння чалавечага лёсу. Але ж не толькі — гэтакімі словамі быў калісь зажартаваў нейкі чалавек, якога кампаньён прабаваў даплысці да берагу Нарвы за Ціхаволяй... Нарва на нейкім адрэзку свайго верхняга цячэння была паўночнай граніцай колішняй Масеўскай гміны, колішняга Пружанскага павета, колішняга Берасцейскага ваяводства. Нарва таксама размяжоўвала Белавежскую і Свіслацкую пушчы...

А ў пачатку Старога Масева, што з боку Альхоўкі, Гушчэвіны і Нараўкі, пад мажным дубам, стаіць некалькі крыжоў, у іх ліку і цэментны ў жалезнай агароджы, на якім аптымістычны надпіс: „Сей крест яко знамение победы на враги сооружен пожарной дружиной деревни Масево I 1938 1 юнь”. Стаўлялі той крыж у час, калі напрамак у бок Нараўкі быў напрамкам у вонкавы грамадскі свет, „на враги”, а „ўнутраны” свет вёскі быў з другога боку, з боку Ціхаволі. Граніца павярнула масеўскі свет на 180°, а цэментны крыж астаўся помнікам не толькі матэрыяльнай даўніны, але і ментальнай.

Была калісь дарога з Масева ў Ціхаволю, а адтуль у Свіслач і Поразава. Была дарога і ў Белавежу, а адтуль у Шарашова і Пружаны; верагодна і ў Чадзель была дарога. Зараз асталася толькі асфальтоўка ў бок Нараўкі і жвіроўка ў бок Баб’яй Гары; падаюся ў апошнюю. Вось гэтая дарога са Старога Масева ў Баб’ю Гару здаецца быць найвыдатнейшым маршрутам цераз Белавежскую пушчу. Яна не надта шырокая і кароны не надта таксама магутных дрэў сходзяцца зверху з сабою і гэтакім чынам пушча поўнасцю ахінае вандроўніка, быццам адмяжоўваючы яго ад вонкавага свету, ад нейкіх чужых уплываў. У такім антуражы чалавек адчувае поўнасцю ўсебаковы шарм нашай славутай прыроднай жамчужыны, да таго ж дарога не манатонная, пралягае і цераз балоты, і цераз груды, а верхавіны і каранішчы вывернутых дрэў дазваляюць сузіраць пушчу таксама зверху і са споду. Гэты незвычайны, закрыты зверху як метро, пушчанскі маршрут выходзіць навонкі на аблагі Баб’яй Гары.




За Баб’яй Гарой дзве невялікія вёсачкі. Слоўнік: Siemieniakowszczyzna, folwark, pow. wołkowyski, gm. Tarnopol, o 63 wiorsty od Wołkowyska. І далей: Borowiki, osada, pow. prużański, gm. Masiewo; 63 wiorsty od Prużany. Аўтары Слоўніка збіралі звесткі пра тысячы і тысячы мясцовасцей, таму яны не заўсёды дакладныя. Апошняя вёсачка, што на мяжы паветаў, на мяжы ваяводстваў, на мяжы этнаграфічных краін, гэта не Баравікі, толькі Баравыя. Мясцовасць, дзе „першы раз пазнала шчасце, слязу нядолі праліла” не Канстанцыя Буйло, толькі... наша Міра Лукша!

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА








Ёсць у беларусаў дзве постаці ў літаратуры, да якіх прыхільна ставіліся як савецкія, так і сучасныя лукашэнкаўскія ўлады. Гэта — Янка Купала і Якуб Колас. За савецкім часам абодва яны былі своеасаблівай візітоўкай беларусаў, і іншым разам здавалася, што без іх і іх твораў пра беларусаў як пра народ увогуле казаць было б не варта. Пасля таго, як стала вядома, што беларусы гэта не толькі Купала з Коласам, абодва літаратары ўсё ж засталіся на годным месцы ў свядомасці сваіх нашчадкаў — музеі, прысвечаныя ім і іх спадчыне, функцыянуюць і прадстаўляюць інфармацыю аб нязрушаных часам асобах.

Пра адзін з такіх музеяў, а дакладней пра сайт літаратурнага музея Якуба Коласа ўжо паведамлялася на старонках „Нівы”. Так, у нумары ад 14 снежня 2008 года распавядалася пра яго, як пра адзін з шэрагу літаратурных музеяў — Багдановіча, Купалы, гісторыі беларускай літаратуры. Цяпер жа ў сусветным павуцінні існуе асобны сайт, прысвечаны музею Якуба Коласа, дзе ўжо не распавядаецца пра іншыя. Месціцца сайт па адрасе http://yakubkolas.by.

Галоўная старонка мае традыцыйнае дзяленне на дзве часткі. У першай, левай знаходзяцца выйсці на іншыя старонкі. Дарэчы, іх даволі многа і яны цалкам напоўнены інфармацыяй. Другая частка, правая, акурат і ёсць тым цалкавітым зместам. Так, на галоўнай старонцы, дзе месціцца агульнае апісанне музея, мы можам убачыць фотаздымкі яго будынка, залаў, асобных рэчаў. „Наведванне музея Якуба Коласа, гэтага асяродка беларускай культуры, паспрыяе не толькі бліжэйшаму знаёмству з усебаковай дзейнасцю народнага паэта, беларускай літаратурай і мастацтвам, але і духоўнаму ўзвышэнню таго, хто зойдзе ў гэты гасцінны Дом, дзе і цяпер жыве дух жыццялюбства, творчасці, пашаны да тых, хто працуе ў галіне мастацкага слова, любіць, шануе вялікі талент песняра”, — кажуць стваральнікі сайта і музейныя служыцелі. Пра іх, між іншым, можна даведацца, калі клікнуць на працяг расповеду. Тады цікавы карыстальнік апынецца на старонцы „Структура музея”, дзе атрымае звесткі пра ўсіх музейных супрацоўнікаў, якія працуюць у шэрагу яго аддзелаў і, у прыватнасці, аддзеле „Мікалаеўшчына”. Гэтаму аддзелу, а дакладней філіялу, прысвечана цэлая старонка сайта, якая ў пераліку рубрык ідзе другой.

Справа ў тым, што Мікалаеўшчына — малая радзіма Якуба Коласа — Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча. А філіял музея аб’ядноўвае чатыры мемарыяльныя сядзібы ў Панямонні — Смольню, Акінчыцы, Альбуць і Ласток.

Біяграфія літаратара падаецца ў аднайменнай рубрыцы. Прычым там змешчаны вельмі падрабязныя звесткі пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, да таго ж аздобленыя партрэтнымі фотаздымкамі.

У адрозненні ад раней апісанага ў „Ніве” сайта пра музей Коласа, гэты — мультымедыйны. Тут утрымліваюцца як відэа, так і аўдыёфайлы. Выйсці на іх пазначаны адпаведна — „Відэа” і „Аўдыё”. Праўда, інфармацыі там няммога. У першым толькі адзін файл, дзе пад песню на словы Коласа „Мой родны кут” прадстаўлены карціны, якія змяняюцца, а ў другім — два. У іх аўтэнтычныя прамова і верш Коласа, праўда, вельмі кароткія па часе.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Аўтар першых беларускіх слоўнікаў

# 225 гадоў з дня нараджэння Івана Насовіча



Беларускі мовазнавец Іван Насовіч нарадзіўся 7 кастрычніка 1788 года ў вёсцы Гразівец (цяпер Чавускі раён Магілёўскай вобласці) у сям’і царкоўнага псаломшчыка. Адукацыю ён атрымаў у гімназіі і духоўнай семінарыі ў Магілёве. Ужо там вывучыў некалькі моў, што і вызначыла далейшы яго лёс. Цягам 1812-1843 гадоў працаваў выкладнікам, інспектарам Аршанскага вучылішча, рэктарам Мсціслаўскага духоўнага вучылішча, потым у аналагічных установах Дынабурга, Маладзечна, Свянцян. Калі выйшаў у адстаўку, пераехаў на стала ў Мсціслаў і вёў навуковую працу. Ранейшыя службовыя пераезды, вандроўкі па Магілёўшчыне, Міншчыне, Гарадзеншчыне далі яму магчымасць грунтоўна заглыбіцца ў народную творчасць, накапіць багаты лексічны, фразеалагічны, фальклорны матэрыял з розных рэгіёнаў Беларусі.

Іван Насовіч пачаў укладанне першага гістарычнага слоўніка беларускай мовы пад назвай „Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі”. Рукапіс, які зараз захоўваецца ў Пецярбургу, ён завяршыў у 1867 годзе. Слоўнік змяшчаў каля 13 тысяч слоў. За працу Насовіч атрымаў прэстыжную у Расейскай імперыі Уваравускую прэмію.

Асноўнай жа навуковай працай Насовіча стаў наступны тлумачальна-перакладны „Слоўнік беларускай мовы”, які быў выдадзены ў 1870 годзе і змяшчаў больш за 30 тысяч слоў, запісаных аўтарам у Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай і Гродзенскай губернях, а таксама выбраных з вуснай народнай творчасці, старабеларускіх пісьмовых помнікаў. Усе значэнні слоў і словазлучэнняў раскрываюцца аўтарскім тлумачэннем з дакладнымі рускімі эквівалентамі, цытатамі з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы, часам даецца этымалогія слоў. У 1881 годзе быў выдадзены „Дадатак да беларускага слоўніка І. І. Насовіча” (каля 1 тыс. новых слоў). Слоўнік да гэтага часу застаецца ўнікальным зборам беларускай лексікаграфіі.

Значнымі былі і фальклорна-этнаграфічныя працы Насовіча, галоўная сярод іх — „Зборнік беларускіх прыказак” (1867), які змяшчае каля 3,5 тыс. прыказак, прымавак, прыгаворак, праклёнаў, скорагаворак. У зборніку раскрываецца сэнс прыказак, выяўляецца іх паходжанне, даюцца эквіваленты з рускай мовы, а ў многіх выпадках і з іншых моў. Іншыя зборнікі — „Беларускія прыказкі і прымаўкі” (1868), „Беларускія прыказкі і загадкі” (1868), „Беларускія песні” (1873, больш за 350 тэкстаў), вядомы рукапіс зборніка „Легенды, паданні, быліны, байкі, анекдоты” не выяўлены. Уражвае аб’ём працы навукоўца, нездарма яго называлі „беларускім Далем”.

Іван Насовіч адным з першых даводзіў, што назвы плямёнаў „дрыгавічы”, „радзімічы”, „крывічы” паходзяць ад беларускіх народных слоў. Ён таксама пакінуў гістарычна-мемуарныя запісы.

З 1876 года Насовіч ужо быў цяжка хворы, але працягваў працу — дыктаваў па памяці сабраныя матэрыялы, а яго сын іх занатоўваў. Неўзабаве навуковец зусім аслеп і аслабеў. Памёр Іван Насовіч 6 жніўня 1877 г. Пахаваны на могілках Тупічэўскага манастыра, што паблізу Мсціслава. У яго гонар сёння названа адна з вуліц Мсціслава.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# У Апацы на Прачысту

Апака-Вялікая — невялічкая вёсачка ў Чаромхаўскай гміне, якая мяжуе з Беларуссю. У даваеннай Польшчы раздзялялася яна на дзве часткі — Апаку-Дварэц (Малую) і Апаку-Вялікую. Назва першай выводзіцца ад панскага маёнтка. Пасля вайны, пры ўстанаўленні дзяржаўнай мяжы ў 1948 годзе, панскую маёмасць раскупілі сяляне, а праз Апаку-Вялікую пралягла дзяржаўная мяжа. У шасцідзесятыя гады XX стагоддзя Апака-Вялікая яшчэ бурліла жыццём. Налічвала яна тады каля двухсот жыхароў. Было шмат моладзі. Працавалі школа і драмгурток. З цягам часу вёска пачала занападаць, так як і большасць падляшскіх вёсак. Зараз у Апацы-Вялікай 13 гаспадарак, прытым у васьмі заселеных пражывае 27 жыхароў. У асноўным — гэта пенсіянеры. Адно дзіця ў школьным узросце вучыцца ў другім класе пачатковай школы ў Чаромсе. Адна асоба — беспрацоўная. Самай старэйшай жыхаркай лічыцца Яўгенія Андрасюк 1925 года нараджэння; малодшыя за яе Марыя Саўчук (1927) і Яўгенія Раманчук (1928). З ліку мужчын самым старэйшым лічыцца Сямён Сідарук 1930 года нараджэння. Раней солтысам (два тэрміны) быў Аляксей Ваўранюк. Зараз абавязкі солтыса выконвае Ян Пушкарэвіч, які нядаўна перасяліўся з Чорнай-Беластоцкай. „Нарадзіўся я ў Яленяй Гуры. Бацька выходзіць са Ставішчаў, — сказаў мне Ян Пушкарэвіч. — Вёску раней аглядаў я на карцінках. Зараз хачу ўдзельнічаць у жыцці вёскі, бачу шанц для Апакі. Гэта пракладка водаправода, пабудова павятовай дарогі Гайнаўка — Чаромха (праз пушчу) і свабодны доступ да інтэрнэту. За гэта змагаўся мой сябра Аляксей Ваўранюк, за тое і я хадайнічаю".

Стужку перарэзваюць (справа): Юры Шыкула, а. Мікалай Келбашэўскі, Мікалай Міхалюк, Сямён Сідарук, Ян Пушкарэвіч і Марыя Саўчук

21 верасня вернікі Праваслаўнай царквы адзначалі дзень Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі. Гэтае свята ў народзе называюць Прачыстай. У гэты дзень царкоўны фэст адбыўся і ў Апацы-Вялікай, якая прыналежыць да Вэрстоцкай парафіі. І ў гэты дзень у вёсцы адбылося незвычайнае свята. Апрача набажэнства ў царкоўцы ў гонар Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі адбылося пасвячэнне адрамантаванай вясковай святліцы. Рамонт і мадэрнізацыя будынка паглынулі 42 143,56 зл., у тым ліку 24 989,89 зл. еўрасаюзных сродкаў і 8115,22 зл. уласнага кошту (рабочай сілы). Задача была рэалізавана ў рамках дзеяння „ўкараненне лакальных стратэгій развіцця для малых праектаў". Мерапрыемства праходзіла пры ненанайлепшым надвор'і. Неба зацягвалі хмары і зранку імжыў дождж. Нягледзячы на гэта на ўрачыстасць прыйшлі не толькі жыхары Апакі-Вялікай, але прыехалі і ўраджэнцы гэтага сяла з Чаромхаўскай і Кляшчэлеўскай гмін. На мерапрыемстве сабралася 60-70 чалавек. Урачыстасць удастоілі благачынны Кляшчэлеўскага благачыння а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, настаяцель Вэрстоцкага прыхода а. Павел Кучынскі, святары з Зубач і Падбелля, камендант Пагранічнай аховы ў Чаромсе падпалкоўнік Канстанцін Герман, старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк і старшыня Рады гміны ў Чаромсе Надзея Суліма, дырэктар чаромхаўскіх школ Мар'ёля Шыманчук, кіраўніцтва гміны, радныя ды солтысы. Хлебам ды соллю войта Юрыя Шыкулу і а. Мікалая Келбашэўскага прывіталі солтыс Ян Пушкарэвіч з жонкай.

Гасцей хлебам і соллю віталі солтыс з жонкай

Затым слова ўзяў войт Юры Шыкула. У выступленні прамоўца прыгадаў мінулае вёскі, затым спаслаўся на сучаснасць і рэалізацыю гмінных інвестыцый.

— Сёлета здаем у карыстанне мадэрнізаваную святліцу, у якой у мінулым змяшчалася школа. Будынак узведзены быў у дваццатых гадах мінулага стагоддзя, калі ў Апацы бурліла жыццё. Зараз пагаворваюць, што рамонт быў непатрэбны, бо жыве тут толькі чалавек дваццаць і будынак будзе нявыкарыстаны. Гэта няпраўда. За гэта хадайнічаў раней солтыс Аляксей Ваўранюк і цяперашні Ян Пушкарэвіч. У пэўнай ступені гэта іх заслуга. І дзякуй ім за гэта. Трэба верыць, што з ходам часу вёску заселяць новыя жыхары, а святліца будзе месцам культурнага адпачынку. Таго ад шчырага сэрца жадаю апацкай грамадскасці, — закончыў прамову войт Юры Шыкула.

Гонару перарэзання стужкі і адкрыцця святліцы ўдастоіліся войт Ежы Шыкула, а. Мікалай Келбашэўскі, старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк, солтыс Ян Пушкарэвіч, 86-гадовая Марыя Саўчук і самы старэйшы мужчына ў вёсцы 83-гадовы Сямён Сідарук. Затым унутры святліцы правіўся малебен і адбылося пасвячэнне страў. У мастацкай частцы выступілі калектывы „Гілочка" і „Вульчанкі" ды пявунні з вёскі Чаромхі. Гасцей на святочны пачастунак пры шведскім стале запрасілі арганізатары. Мерапрыемства праходзіла пры беларускай дыскапольнай музыцы, за якую задбаў Гмінны асяродак культуры. Смакавітыя стравы падрыхтавалі кляшчэлеўская карчма „У Валянціна" і мясцовыя гаспадыні, за што ім госці і ніжэйпадпісаны перадаюць вялікае дзякуй.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

1. між Румыніяй і Украінай, 2. жонка калгасніка, 3. вострая жалезная частка плуга, якая падразае знізу пласт зямлі і праводзіць барозны, 4. колькасць араў у гектары, 5. паведамленне у... сынавай жонкі, 6. вугал паміж стрэлкай компаса і напрамкам на вызначаны аб'ект, 7. мяцеж, 8. амерыканскі штат між Атлантыкай і Мексіканскім залівам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Друя, Ной, ноч, руда, сум, сыч, Уж, цэціва.

Рашэнне: **Вучыся мудрасці на чужой дурноце**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 06.10 — 13.10

**(22.03. — 20.04.)** У тваім сэрцы вясна. Добры час у пачуццях. Горш у парах, у якіх ужо ёсць праблемы. Дома — пры круглым стале. У кар'еры — новае лепшае ад руціны. Вопыт узбагачай творчымі задумамі. Не прапусці магчымасцей у фінансах, якія паявяцца пасля 7.10. 6-10.10. не пераплачвай.

**(21.04. — 21.05.)** Аж да 22.10. добры настрой цябе не пакіне; рэалізуй свае амбітныя планы. На працы стаў на пунктуальнасць і дысцыпліну. Каля 6.10. пачні ачышчальную дыету. 7.10. знакаміты настрой, шанцы, што пазбудзешся пару праблем. 8-12.10. два разы правярай усё, што робіш.

**(22.05. — 22.06.)** Здабудзеш прызнанне нават сярод праціўнікаў. 5-9.10. аднаўленне старых знаёмстваў, інтэнсіўнае кампанейскае жыццё. Ад 10 (да 14.10.) моцна пільнуйся законаў, таксама дарожных. Шматлікія любоўныя прыгоды (некаторыя рызыкоўныя!). Пасля 7.10. можа ў цябе трапіць страла Амура! (Блізняты народжаныя пасля 28.05. павінны захаваць асцярожнасць у інвеставанні ў пачуцці!). Еж толькі здаровае. На працы аналізуй сітуацыі і аценяй іх свядома.

**(23.06. — 23.07.)** 7.10. прачнецца ў табе голад прыгоды і падарожжаў. Дбай аб сваю красу (увесь месяц не сядай на дыету!). Самотныя Ракі — 10-14.10.: чакае вас новае каханне! 7-12.10. магчымыя праблемы ў адносінах. У пачуццях захавай развагу і асцярожнасць. 10-14.10. знойдзеш залатую сярэдзіну ў пачуццях, наладжванні саюзаў і кампрамісах. Аўтарытэт і павага ў сям'і. Малая рэвалюцыя на працы (можаш адчуць на момант мяккі грунт пад нагамі). Добра ў фінансах (да канца першай паловы месяца), але добра гаспадаруй.

**(24.07. — 23.08.)** Зоркі пхаюць цябе да дзеяння; але і навука незалежнасці і праўдзівасці. Але з 10 (да 14.10.) будзеш праваканы да бесталковых рашэнняў і памылковых выбараў. Шчасце ўсміхнецца самотным Ільвам. У сям'і не ўсё па тваёй думцы; трымайся фактаў. Можаш хутка пахудзець у першай палове месяца. У кар'еры многа зажэртага змагання за сваё; выкарыстоўвай усе нагоды для таго, каб паказацца; не расцярушвайся на драбніцу.

**(24.08. — 23.09.)** У пачуццях перайме прававодырства. Хопіць падданасці і саамаадрачэнняў! Магчымыя болі ў суставах і пазваночніку (гэта ад стомы). У кар'еры развяжацца мех з прапановамі (дасі рады). Першыя поспехі прыйдуць хутка; не адкідвай нават шалёных задум. 6-10.10. зоркі могуць пакрыжаваць планы, але і ўсвядоміць памылкі. Пільнуйся ў пакупках (аж да 22.10.).

**(24.09. — 23.10.)** Прыліў вітальных сіл і энтузіязму; лёгка пакінеш кепскія звычкі і пахудзееш. Знакаміты настрой, удалыя спатканні (таксама любоўныя). Затое 8-10.10. магчымя праблемы з людзьмі, асабліва з начальствам (не дыскутуй з шэфам і не пляткуй на яго тэмы!). Дом — аазіс спакою і творчых задум. Але чакай наезду гасцей (так з два тыдні!).

**(24.10. — 22.11.)** Прапановы вартыя развагі, лепшае зразуменне нялёгкіх спраў. Свабодныя Скарпіёны няхай шукаюць кагосьці вартага заходу (цяпер маеце вельмі мілавідны выгляд!). Добрае адчуванне на ўлонні сям'і. Хаця аж да 23.10. ненайлепшая форма... цяпер можаш добра справіцца з кепскімі звычкамі і абжорствам. На працы 5-9.10. закамітыя задумы і нагоды заззяць. Час інвестыцый. А народжаным пасля 14.11.: ШЧАСЦЕ (іграйце у латарэю; увесь кастрычнік)!

**(23.11. — 22.12.)** У каханні казка, дома складзецца ўсё ў клетку. А ў фінансах — лепш ужо было. 10-14.10. сваёй упартасцю адкінеш нават найбольш табе зычлівых. Але могуць акрэпнуць лады ў тваёй пары. Дома дасі рады самым цяжкім справам. Адклейся ад канапы, маеш прыліў жыццярадаснасці і сілы. На рабоце спакойна, момантамі нуднавата.

**(23.12. — 20.01.)** 6-8.10. удачы, але мусіш старацца. Спакой, развага, моцная воля і нават адчайнасць — дасі рады са шматлікімі турботамі. Не мяшай кахання з сяброўствам. Чакае цябе шмат пастак — давер развазе, а ўдасца табе іх абмінуць. На працы трываласць, працавітасць, цярплівасць, найлепш выйдзе табе тое, што ведаеш.

**(21.01. — 19.02.)** 10-14.10. незадобрая фінансавая кан'юнктура і залёгкая рука да выдавання грошай; пільнуй кашалька! 6-10.10. магчымя буры ў сям'і. У здароўі пашкодзіць табе можа лішак — і рэстрыктыўныя дыеты, і абжорства, і не вылежвайся, і не шалей на трэнажорах.

**(20.02. — 21.03.)** Не вяртайся да старога кахання. Не выдай фартуны на драбязу! Надзея на заканчэнне ўсіх спрэчак. Патрэба незалежнасці і голад поспехаў застукаюць у твае дзверы. 8-10.10. ідэальныя кантакты з дзецьмі. Дзякуючы добрым супрацоўнікам, будзеш мець гарантаваны поспех.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Закатаваны ў сталінскіх лагерах

**Вялікдзень 1946 года беларускі манах Серафім Жыровіцкі (Раман Шахмуць) сустрэў у сталінскіх лагерах вітаннем сваіх братоў па лагеры: „Хрыстос Уваскрос!..”. „Сапраўды ўваскрос!”, — адказвалі зэкі. Пачуўшы гэтыя святыя словы, лагернае начальства пачало лютаваць. Яно схапіла Рамана Шахмуця і кінула яго ў карцар, дзе знаходзілася па пояс ледзяная вада. А потым прывязалі рукі і ногі да двух грузавікоў, якія раз'ехаліся ў розныя бакі, разарваўшы цела манаха папалам. Так загінуў архімандрыт Серафім Жыровіцкі. Гэта было ў пачатку сакавіка 1946 года.**





Выписка из протокола № 26

Особого Совещания при Народном Комиссаре Внутренних Дел СССР

| СЛУШАЛИ | ПОСТАНОВИЛИ |
|---|---|
| Обв. по ст. 63-2 УК БССР. | Серафима Романовича за ... пребывание на оккупированной территории – заключить в исправительно-трудовой лагерь сроком на пять лет, считая срок с 6 сентября 1944 года. |

Нарадзіўся Раман Шахмуць 15 ліпеня 1901 года ў вёсцы Падлессе на Случчыне (цяпер Ляхавіцкі раён) у шматдзетнай сялянскай сям'і Рамана і Алены Шахмуцяў. З дзяцінства хлопчыка цягнула да царквы, дзе ён многа і старанна маліўся. Нягледзячы на беднасць і раннюю смерць бацькі, Раману ўдалося скончыць двухгадовую школу ў Ляхавічах. У 1916 годзе ён паступіў паслушнікам у Мінскі Свята-Духаў мужчынскі манастыр. Але праз год, у 1917 годзе, вымушаны быў вярнуцца ў роднае Падлессе, каб дапамагаць аўдавелай маці. У 1921 годзе Раман здаў экзамен на псаломшчыка і нейкі час служыў у царкве Нараджэння Багародзіцы ў вёсцы Вяляічы каля Пінска.

25 чэрвеня 1922 года, адчуваючы ў сабе манаскае прызванне, ён пакідае свой дом і накіроўваецца ў Жыровіцкі манастыр на Слонімшчыну. Праз год юнак прымае манаскі пострыг з імем Серафім.

Дзякуючы добрым здольнасцям да музыкі і спеваў, яму было даручана яшчэ выконваць абавязкі рэгента і ўстаўшчыка. У 1926 годзе Серафіма (Шахмуця) рукапалажылі ў іерадыякана. У гэтым сане пэўны час ён кіраваў манастырскім хорам, выконваў абавязкі эканома. Карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам сярод манастырскай брацііі.

У 1935 годзе Серафім Жыровіцкі быў узведзены ў сан іераманаха. Яго накіравалі на Беласточчыну ў вёску Курашава, што каля Гайнаўкі. Там праваслаўны прыход апынуўся ў цяжкім становішчы ў сувязі з актывізацыяй уніятаў. Два гады іераманах Серафім служыў у Курашаве. За гэты час малітоўнай і падзвіжніцкай працы ён дамогся значнага паляпшэння стану храма і прыхода, заўважна ўмацоўваў дух праваслаўных вернікаў. А 20 мая 1937 года ён з хрэсным ходам з Курашава прыйшоў у Жыровічы, дзе ў гэты дзень адзначалі свята Жыровіцкай Іконы Божай Маці.

Па прапанове іераманаха Серафіма ў 1938 годзе Ікона Жыровіцкай Божай Маці была ўпершыню вынесена з Жыровіцкага Свята-Успенскага сабора і на спецыяльна абсталяваным возе яе пачалі вазіць па Гродзенскай епархіі.

З таго часу іераманах Серафім разам са сваім сябрам Рыгорам Кударэнкам, будучым жыровіцкім архімандрытам, удзельнічаў у місіянерскіх хрэсных ходах з Жыровіцкай Іконай Божай Маці па заходнебеларускіх гарадах і вёсках. Падчас гэтага ходу разам з прыхаджанамі ён збіраў сродкі на рамонт Жыровіцкага манастыра. Паўсюль сустрэчы Іконы адбываліся ўрачыста і шматлюдна.

У канцы 1939 года ўладыка Панцеляймон (Павел Ражноўскі) узвёў айца Серафіма ў сан ігумена, а крыху пазней — у сан архімандрыта.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, архімандрыт Серафім і іерэй Рыгор Кударэнка з благаславення архіепіскапа Панцеляймона ў жніўні 1941 года пакінулі Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр і выехалі ў напрамку Мінска. Ім было даручана заняцца арганізацыяй царкоўна-прыходскага жыцця ва Усходняй Беларусі, дзе яно было ў даваенны час цалкам разбурана.

Па дарозе ў Мінск яны наведалі шэраг вёсак Капыльскага, Слуцкага і Уздзенскага раёнаў. У кожным паселішчы місіянеры збіралі сярод вернікаў прашэнні на імя ўладыкі Панцеляймона з просьбай аб адкрыцці прыходскіх цэркваў; усюды адпраўлялі богаслужэнні, аглядалі храмы, якія заховаліся, выбіралі будаўнічыя камітэты для іх рамонту, хрысцілі дзяцей, адпявалі нябожчыкаў, нястомна прапаведавалі.

Прыбыўшы ў Мінск, архімандрыт Серафім і айцец Рыгор нядоўгі час служылі ў Спаса-Праабражэнскай царкве былога жаночага манастыра. Але ўжо ў студзені 1942 года адправіліся на Віцебшчыну з той жа мэтай місіянерскай прапаведзі. Затым яны наведалі Оршу, Магілёў, Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Бабруйск і Гомель. У мясцовасці Чонкі аднавілі жаночы манастыр, у якім пасялілася 30 сясцёр.

У Віцебску па просьбе Царкоўнага аддзела архімандрытам Серафімам быў напісаны артыкул для газеты „Новый путь” (газета выдавалася з восені 1941 да восені 1943 гг.). У ёй аўтар распавядаў пра сваю місіянерскую працу, аб адкрыцці цэркваў, пра тое, як народ радуецца гэтаму, энергічна ачышчае храмы ад калгаснага збожжа, ад смецця. Людзі неслі ў храмы выратаваныя і схаваныя ад бальшавікоў крыжы, рызы, малітоўнікі, Евангелле, абразы, дапамагалі рамантаваць храмы, горача маліліся, пачалі хрысціць дзяцей, адпяваць памерлых і г.д. У Вербную нядзелю праваслаўныя святары наведалі горад Сянно, дзе наладзілі першае богаслужэнне, на якім прысутнічала каля тысячы вернікаў. Там архімандрыт Серафім і іерэй Рыгор Кударэнка пахрысцілі 200 дзяцей. Падчас місіянерскага падарожжа 1941-1944 гадоў па Усходняй Беларусі айцом Серафімам разам з іерэем Рыгорам былі адкрыты 74 храмы.

Аб'ехаўшы Усходнюю Беларусь, архімандрыт Серафім (Шахмуць) стаў першым летапісцам тых пакутаў, якія выцерпелі служыцелі Праваслаўнай царквы ў перыяд бальшавіцка-савецкага тэрору.

У чэрвені 1944 года ў сувязі з набліжэннем лініі фронту святары выехалі ў Гродна, дзе знайшлі прытулак у манастыры Нараджэння Багародзіцы. А 6 верасня таго ж года абодва прапаведнікі і місіянеры былі арыштаваны. Супрацоўнікі НКУС прад'явілі ім абвінавачанне ў супрацоўніцтве з акупацыйнымі карнымі органамі СД і ў іншых надуманых злачынствах. На самой справе прычынай арышту была іх падзвіжніцкая і місіянерская дзейнасць. Арыштаваных пратрымалі пад „следствам” роўна 10 месяцаў, так нічога і не дабіўшыся. На допытах асуджаныя трымаліся мужна, не хаваючы сваіх поглядаў і перакананняў.

Абодвум вязням 7 ліпеня 1945 года вынеслі прысуд аб пазбаўленні волі тэрмінам на 5 гадоў з адбываннем пакарання ў канцлагеры. Іх адправілі ў Горкаўскую вобласць, размясцілі ў розных месцах, на адлегласці 12 кіламетраў. Хутчэй за ўсё гэта быў Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай вобл. (станцыя Сухабязводная). Там і закатавалі архімандрыта Серафіма Жыровіцкага (Рамана Шахмуця). Рэабілітаваны ён быў пракуратурай Беларусі 22 красавіка 1994 года. Групавая справа архімандрыта і іншых святароў № 35844-с, па інфармацыі Леаніда Маракова, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Святар Рыгор Кударэнка, адбыўшы тэрмін зняволення, вярнуўся ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр, дзе праз нейкі час прыняў манаскі пострыг з імем Ігнацій. У 1984 годзе ва ўзросце 89 гадоў яго не стала.

У 1999 годзе Сінодам Беларускай Праваслаўнай Царквы архімандрыт Серафім Жыровіцкі быў далучаны да ліку святых навапакутнікаў. А ў 2000 годзе на юбілейным Архіерэйскім Саборы РПЦ, які праходзіў у Маскве, Серафім, архімандрыт Жыровіцкі, быў кананізаваны.

Штогод 6 верасня ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры адбываецца святочнае ўшанаванне памяці прападобнамучаніка Серафіма Жыровіцкага. У гонар яго дзейнічае ў Слоніме і прыходскі храм.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



ISSN 0546-1960